ГОД VI ТРАВЕНЬ - ЧЭРВЕНЬ 1952 г. № 48

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

## ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

---

ЗЬМЕСТ




**BOŽYM ŠLACHAM**

**(SUR LA VOIE DIVINE)**

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL

Année VI. № 48. Mai-Juin 1952

51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI[e]

**Перадплата «Божым Шляхам» на 1952 г.**

| | За адзін нумар | На год |
|---|---|---|
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI<sup>e</sup>.

У АНГЛІІ:

Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У АРГЭНТЫНЕ:
Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981.
4, de Junio, Buenos Aires.

У АЎСТРАЛІІ:
Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str.
East BRISBANE. Q-ld.

У БЭЛЬГІІ:
Mr. Sacko Alexander. 19, Place Hoover, LOUVAIN.

У НЯМЕЧЧЫНЕ: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

## КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 130 фр.— 3 шыл.
Г-і Я. — Наша Краіна. Літаратурная чытанка 300 фр. — 6 шыл. 10 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах 250 фр. 6 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Паштоўкі з беларускімі краявідамі — 15 фр. 8 п.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 1200 фр. 1 ф. 10 шыл.
M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:
R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.
У Англіі: Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.
У Нямеччыне: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

**У В А Г А !**

Усю карэспандэнцыю для рэдакцыі «Божым шляхам» просіцца высылаць на вышэйпаданы асабісты адрас адказнога рэдактара а. Л. Гарошка.

**Рэдакцыя.**

## З БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ МУДРАСЬЦІ.

Бедны Бога памятае, а багаты ўсіх забывае.
Без адвагі няма павагі.
Без ахвоты няма работы.
Без навукі і лапця не сплящеш.
Без надзеі на Бога людзі не памога.
Беражонага і Бог беражэ.
Бітаму сабацы кія не паказвай.
Быты адзін дзесяць нябітых каштуе.
Благая пуга лычная, а без яе яшчэ горай.
Благі з ліхім знаюцца, адзін на дуругога ссылаюцца.
Бога бойся, госьцей шануй.
Бога ня бачыш, але чуеш.
Бога ня думай абмануць.
Бога ня купіш, Ён толькі па малітвам дае.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» І ФОНД «ДОБРАЕ ДНІЖКІ».

**апошнім часам прыслалі:**

Бал-іч В. 400 фр., Грын-іч С. 800 фр., Елеш-іч П. 500 фр., Згурт. Белар. у Канадзе 800 фр., З-як С. 800 фр., Каран-кі М. 240 фр., Карніловіч С. (ад групы ў Огіё) 3448 фр., Ках-кі А. 400 фр., Каш-ян У. 500., Кун-іч Н. 400 фр., Лоб-ко Ю. 90 фр., Мі-на У. 120 фр., Пан-оў М. 580 фр., Паш-іч М. 400 фр., Ро-ко А. 350 фр., Сал-іч Т. 1050 фр., Чар-ці Я. 1700 фр., Шацько Ал. (ад СББ) 2100 фр., Яцкевіч Д. (ад групы з Аўстраліі) 1930 фр.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VI. ТРАВЕНЬ-ЧЭРВЕНЬ. 1952. № 48

# Вялікая годнасьць хрысьціяніна

Хрысьціянін — гэта другі Хрыстос, гэтак ён называўся ў першых вякох хрысьціянства. Айцы Царквы бачылі яго ў такім сьвятле. Сам назоў — хрысьціянін — паходзіць ад слова Хрыстос і значыць тое самае-ж, што пагрэцку Хрыстафор — носьбіт Хрыста. І сапраўды хрысьціянін ня можа быць кім іншым, як носьбітам Хрыста; больш таго, падчас сьвятога хрышчэньня ён прымае ад Бога ласку, у сілу якое стае ўдзельнікам у натуры самога Бога. У гэтым сэнсе і гаворыцца, што хрышчэньне ёсьць другое нараджаньне, тое нараджаньне ў якім чалавек перараджаецца ў Хрыста. Вядома-ж тут не пантэізм, бо Бог Істота нествораная, а ўсе іншыя істоты зьяўляюцца Ягонымі творамі і залежаць ад Яго, тады калі сам Бог не залежыць ад нікога. Ды стварыў Ён іх не з свае Істоты, а проста з нічога. Такія-ж адносіны і паміж хрысьціянінам і Хрыстом. Не парушаючы тут суадносінаў Асобаў у сьвятой Тройцы, можна сказаць, што Хрыстос як Бог ёсьць Сам ад Сябе, хрысьціяне-ж усе ад Яго — праз удзельніцтва ў Яго Істоце. Гэтую вялікую праўду ап. Павал выказвае гэтак: «Мы чэлесы цела Яго, ад цела Яго ды ад касьцей Яго» (Эфэз. V, 30). Вялікая навука ёсьць у гэтых словах апостала. Калі мы з Хрыстом разам творым адно цела, у якім Хрыстос ёсьць галава, а мы, хрысьціяне, чэлесы, значыць мы разам творым адну суцэльнасьць, якая ў багаслоўіі называецца містычным целам Хрыста. Што значыць містычнае цела Хрыста? Гэтым словам азначаецца таёмнае цела, адменнае ад таго прыроднага цела, якое Хрыстос меў ад Марыі і адменнае ад таго, якое Ён сам устанавіў у сьвятым Прычасьці пад відамі хлеба і віна.

Містычнае цела Хрыста ёсьць такая сапраўднасьць, падобнай да якое нідзе больш у бачымым і нябачымым сьвеце няма: яна ёсьць толькі ў лучнасьці хрысьціян з Хрыстом праз Царкву. Але ў гэтай сапраўднасьці ёсьць вялікая тайна. Адвечнае Слова, другая Божая асоба — Бог Сын стаўся чалавекам, падобным да кожнага з нас, а ў хрышчэньні кожны з нас праз ласку сьвятога Хросту стаецца хрысьціянінам, ухрыстосваецца. Дык во дзе тайніца таго, што хрысьціянін другі Хрыстос. Людзкі розум ня можа ўцяміць гэтае вялікае тайны, аднак Бог Сам гэтак вучыць праз сьв. Царкву падае да агульнага вераваньня. Тут галаву схіляеш і воляй ад шчырага сэрца успрыймаеш гэтую праўду, бо ведаеш, што тут праўда Божая, што Бог ані Сам не ашукваецца ,ані іншых ашукаць ня можа. «Неба і зямля прамінуць — кажа Хрыстос — але словы Мае не прамінуць» (Лук. XXI, 33). Так, яны нязьменныя, яны вечная праўда!

Усьведаміўшы сабе так вялікую годнасьць хрысьціяніна, глянем далей з гэтага становішча на адносіны чалавека да Бога. У гэтых адносінах асаблівае мейсца займае сьвятар. Што такое сьвятар? Гэта пасрэднік між людзьмі і Богам; ён заступнік людзей перад Богам, ён прыносіць за іх Богу чэсьць і ахвяры.

Сьвятар выбіраецца спасярод людзей і пасьвячаецца Богу, каб быў пасрэднікам людзей перад Богам. У Старым Запавеце гэтае пасьвячаньне выконвалася праз асаблівае намашчэньне, каторае было прыметай таго, што Дух Божы сходзіў на выбранца і вызначаў яго на абавязак сьвятарства. А ў Новым Запавеце яшчэ большае і шмат больш істотнае памазаньне выконваецца над выбранцам у сьвятары; тут ёсьць асобная тайна Сьвятарства ў сілу якое ён атрымоўвае ад Сьвятога Духа асаблівы сьвятарскі характар і ўсякія Божыя ласкі і дары, патрэбныя для выконваньня вялікіх сьвятарскіх абавязкаў — пасрэдніка між Богам і людзьмі, складаньня Найсьвяцейшае Ахвяры, вядзеньня людзей да Бога і злучаньня людзей з Богам.

Ці сам Хрыстос быў і ёсьць сьвятаром? Калі так, дык калі Ён пасьвячаўся?

Так, Хрыстос быў і ёсьць першым і найвялікшым трансцэндэнтным Сьвятаром, ад Каторага залежала і залежыць, 'мела і мае сваю сутнсьць, сілу і моц усякае сапраўднае сьвятарства як у Старым так і ў Новым Запавеце, а пасьвячаўся Хрыстос у мамэнце свайго ўцелаўленьня, «калі Слова сталася целам і прабывала між намі» (Іван. 1, 14). Дзеля гэтага, і толькі дзеля гэтага прышоў на сьвет Сын Божы, стаўшыся праз уцелаўленьне чалавекам, вядома-ж бяз людзкіх грахоў, недасканаласьцяў і заганаў, але на тое, каб узяць іх на Сябе і даць за іх Сябе Самога ў годную ахвяру Богу, каб гэткім чынам даканаць адкупленьня людзей з палону граху. Дзеля гэтага адкупленьня

Ён стаўся перадусім сьвятаром. Праз дзейнасьць Сьвятога Духа вылілася на людзкую натуру ўчалавечанага Слова самая Боскасьць Яго і ёю авалодала на заўсягды ў мамэнце Яго ўцелаўленьня. Гэта было памазаньне Адвечнага Слова як Божага сьвятара і ад гэтага часу Ён будзе звацца Хрыстом, гэта значыць памазанцам, і Ісусам, гэта значыць Збавіцелем. Аб гэтым пасьвячаньні адвечнага Бога-Слова напісана ў псальме: «Дзеля гэтага памазаў Цябе, Божа, Бог твой алеем радасьці па-над пабратамі тваімі» (XLIV, 8). І прароцтва іншага псальму: «Ты сьвятар на векі» (CIX, 4) споўнілася ў тым-жа мамэнце. Гэта было пасьвячаньне Першага Сьвятара Новага Запавету. Апостал Павал аб сьвятарстве Хрыста піша: «Ніхто ня прымае чэсьці (сьвятарскае) сам сабою, а толькі Той, Хто, як і Арон, пакліканы Богам. Так і Хрыстос, ня Сам Сябе ўславіў, каб быць Першасьвятаром, але Той, Хто сказаў Яму: Ты Мой Сын, Я сягоньня радзіў Цябе» (Жыд. V, 4-6).

Сьвятарства Хрыста зьяўляецца адным із неадлучных і беспасярэдніх вынікаў Яго ўчалавечаньня. Ад гэтага мамэнту Ён будзе жыць, працаваць, навучаць народ, цярпець, устанаўляць сьвятыя Тайны, чыніць Богу ахвяру з Самога Сябе на крыжы; так усё гэта Ён будзе выконваць як вялікі Сьвятар, як пасрэднік між намі і Богам.

Але зноў тут трэба прыгадаць, тое, што мы з Хрыстом творым адно містычнае цела, у каторым Ён ёсьць галавою, а мы чэлесамі. Каб хоць крышку далей заглянуць за рубец гэтае вялікае тайны, зьвернемся да ап. Паўла. Ён з Божага натхненьня піша: «Як адно цела мае шмат чэлесаў, і ўсе чэлесы аднаго цела, хоць іх і многа, твораць адно цела — гэтак і Хрыстос» (І Кар. XII, 12). На іншым мейсцы ён піша аб Хрысьце: «Усё Бог пакарыў пад ногі Яго, і паставіў Яго вышэй усяго Галавою над усім у Царкве, Каторая ёсьць Ягоным целам і паўнатою, напаўняючаю усё і ўва ўсім» (Эфэз. І, 22-23). Вядома-ж тут гаворыць апостал аб той паўнаце, якою ёсьць чэлесы для жывога цела. Адгэтуль апостал робіць такі выснавак для вернікаў: «Вы ўсе адно ў Хрысьце Ісусе» (Гал. III, 28). Гэтае адзінства накіроўвае вернікаў да Бога: «Вы Хрыстовы, а Хрыстос Божы» (І. Кар. III, 23). Гэта значыць, што і мы Божыя праз Хрыста, у Хрысьце і з Хрыстом.

З папярэдняга ясна відаць, што не парушыўшы сутнасьці самога хрысьціянства, нельга адарваць хрысьціяніна ад Хрыста, як і Хрыста ад хрысьціяніна, бо **яны твораць адну суцэльнасьць — містычнае Цела Хрыста.** Гэткая блізкая лучнасьць хрысьціяніна з Хрыстом мае далёкасяжныя вынаўкі і глыбокі сэнс, што сапраўдны хрысьціянін ёсьць да пэўнае ступені другім Хрыстом і так-жа да пэўнае ступені сьвятаром праз сьвятарства Хрыста. Першаапостал Пятро ясна гаворыць аб гэтым у сваім лісьце: «Вы род выбраны, каралеўскае сьвятарства, народ сьвяты, люд здабыты для таго, каб апавяшчалі цноты Таго, Каторы паклікаў вас з цемры да Свайго цудоўнага сьвятла» (І. Пятр. II, 9). Тут зьвяртаецца апостал не да сьвятароў, якія сталіся такімі праз тайну Сьвятарства, але да звычайных хрысьціян, раскіданых па розных правінцыях. Падобна адзываецца ап. Іван у сваім Аб'яўленьні: «Яму, Катры палюбіў нас, і абмыў нас ад грахоў сваёю крывёю, і Каторы ўчыніў нас царамі і сьвятарамі Богу і Айцу Свайму, Яму чэсьць і валадарства на векі вечныя» (Аб'яў. І, 5-6). На іншым мейсцы ён кажа: «Але яны будуць сьвятары Бога і Хрыста» (Аб'яў. XX, 6).

Аб якім-жа сьвятарстве гавораць тут апосталы? Гэта ёсьць сьвецкае сьвятарства вернікаў. Яны называюць хрысьціян каралямі, зразумела ў пераносным сэнсе, паколькі кожны вернік пануе над сваім целам, сваімі нізкімі гонамі, сваімі пажаданьнямі. А сьвятарамі называюць хрысьціян у тым сэнсе, што, падобна як высьвячаны сьвятар, ёсьць выбраны Богам і прыносіць Яму найсьвяцейшую Эўхарыстычную Ахвяру, так кожны хрысьціянін ёсьць выбраны Богам і пасьвячаецца на тое, каб прыносіць Богу ахвяры сваіх добрых учынкаў, малітвы і цноты, супрацоўнічаць у распаўсюджваньні Хрыстовае навукі.

Айцы Царквы, асабліва сьв. Аўгустын, сьв. Амброжы, Орыгэн, сьв. Тамаш з Аквіну — заўсёды так тлумачылі вышэйуспомненыя словы апосталаў, што яны сьвятарамі называюць усіх вернакаў. Сёньня, калі багаслоўская тэрміналёгія устаноўлена больш дакладна, чым у апостальскіх; і сярэднявечных часох ,сьвецкае сьвятарства вернікаў называецца сьвецкім апостальствам. Гэтае апостальства абавязвае ўсіх вернікаў.

Тлумачачы словы «Аб'яўленьня»; «Яны будуць сьвятарамі», сьв. Аўгустын піша: «Гэта трэба разумець ня толькі ў зьвязку з архірэямі і сьвятарамі ,але агулам у зьвязку з вернікамі, каторых апостал называе сьвятарамі таму, што яны ёсьць чэлесы Першасьвятара...» («Божае грамадзтва» Кн. 20. гл. 10).

Орыгэн піша з яшчэ большым нацiскам: «Ці-ж ты ня ведаеш, што табе так-жа было дана сьвятарства — гэта значыць усёй і цэлай Божай Царкве і ўсяму збору веруючых? Паслухай як Пятро гаворыць аб веруючых «Выбраны род». Ты маеш сьвятарства, бо ты каралеўскі народ, дзеля гэтага табе трэба прыносіць Богу ахвяру хвалы, ахвяру малітвы, ахвяру міласэрнасьці, ахвяру скромнасьці, справядлівасьці і сьвятасьці» (Мінь. Пат. Лац. XII, кал. 506-509).

Вялікі сьв. Тамаш з Аквіну піша аб сьвецкім сьвятарстве вось як: «Гэтае памазаньне датычыць так-жа хрысьціян, бо-ж і яны валадары і сьвятары паводля таго, як кажа ап. Пятро: «Вы выбраны род, каралеўскае сьвятарства», і паводля таго,

што піша ап. Іван у Аб'яўленьні «Ты ўчыніў іх валадарствам сьвятарюў Богу» (Творы. XXXI, 378).

У камэнтары на лісты ап. Паўла сьв. Тамаш пытаецца: «Якая розьніца паміж памазаньнем Хрыста і памазаньнем хрысьціян? Гэтая розьніца ёсьць тая, што Хрыстос ёсьць галоўны валадар памазаньня, маючы яго ў Сабе істотным спосабам, калі-ж мы самі і ўсе другія атрымалі і атрымліваюць яго праз удзельніцтва ў Ягоным памазаньні» (Комэнтары. Ліст да жыд. Гл. I, лек. IV).

Хрысьціянін — другі Хрыстос! Хрысьціянін — сьвецкі сьвятар, або інакш кажучы — сьвецкі апостал. Вось дзе бязьмежная годнасьць, сіла і мапутнасьць хрысьціяніна, але адначасна і забавязваючая веліч.

У адносінах да самога сябе хрысьціянін павінен ісьці сьледам за Хрыстом, сумленна выконваць усе свае абавязкі, а ў адносінах да іншых мае абавязак вясьці усіх да Хрыста, дзейнічаць згодна з Хрыстовым Эвангельлем, здабываць цноты. Гэтае хрысьціянін даканае, калі будзе сапраўды шчырым Хрыстовым вучнем.

Хрысьціянін —сьвецкі сьвятар... Дзеля гэтага забавязаны быць пасрэднікам між сьветам і Богам праз малітву, праз добрае дзеяньне, праз ахвяры, а перадусім праз ахвяру сьв. Аўтара. Тут, вядома-ж, ня можа, як звычайны вернік, валадарыць над Хлебам і Віном, прыносіць ахвяру Найсьвяцейшае Эўхарыстыі — не, ён гэтага ня можа рабіць, бо ня мае Тайны Сьвятарства, але ён можа ўсё рабіць у лучнасьці са сьвятаром пры аўтары; ён можа і павінен у кожную нядзелю і сьвята, а нават і ў будныя дні і то як найчасьцей прымаць сьвятое Прычасьце і ахвяроўваць Яго за сябе і за ўвесь сьвет, асабліва за родную старонку, інакш ахвяра за сябе і за сьвет ня можа быць дасканалаю і поўнай.

Вялікія і шматвымагаючыя абавязкі хрысьціяніна, Хрыстовага сьвятара! Але хто іх сумленна выконвае ў сваім жыцьці, той выконвае бязьмежна вялікую місію, але дзеля яе выкананьня трэба быць у заўсёднай лучнасьці з Хрыстом і дзейнічаць праз Хрыста, у гэтым ёсьць адначасна вялікая годнасьць і сіла.

**а. Янка Тарасэвіч.**

# Сужэнства

(Пряцяг 3-і да тэмы **«Рэлігійныя крывулі нашае інтэлігэнцыі»**).

Названая тэма так старая, як і самое жыцьцё, але мае ў сабе шмат далікатных праблемаў, ад правільнага разьвязаньня якіх на сьвеце шмат можа папраўвіцца, дый самое жыцьцё можа стацца ня так горкім. Для ясьнейшага ўняцьця тэмы ўвесь артыкул дзелім на настпныя разьдзелы:

I. Істота сужэнства.
II. Перашкоды да праўдзівага сужэнства.
III. Фальшывыя навукі аб сужэнстве.

### I. Істота Сужэнства.

Сужэнства — гэта сувязь між жанчынай і мужчынай, замацаваная кантрактам-умоваю, узьнятаю ў Новым Запавеце да годнасьці сьв. Тайны. Галоўнаю мэтаю сужэнства ёсьць роджаньне і ўзгадаваньне патомства, а пабочнымі мэтамі зьяўляецца: узаемная помач ува ўсіх турботах дачаснага жыцьця.

Так ёсьць з волі Бога, што дзеля падтрыманьня людзкога роду на зямлі, зьвязваюцца між сабою мужчына і жанчына на ўсё жыцьцё. Аднак Бог не накінуў абавяку жаніцца ўсім бяз вынятку. Не. Наадварот, дзявочасьць у сьв. Пісаньні дзеля вялікае духовае плюднасьці, ставіцца вышэй чымся сужэнства.

Сужэнства паўстае праз кантракт-умову. Гэта значыць, што шануецца вольная воля кожнага з сужонкаў. Дзеля таго, што мэтаю сужэнства ёсьць роджаньне патомства і яго ўзгадаваньне, яно ёсьць неразрыўным, бо раз стаўшыся бацькам ці маткаю чалавек затрымоўвае гэтую годнасьць на ўсё жыцьцё.

Глыбока і прыгожа кажа вялікі грэцкі філязоф Арыстотэль: «Тры рэчы маемо ад бацькоў: існаваньне, яду і навуку (узгадаваньне)».

Узгадаваньне ёсьць справаю доўгіх гадоў і ў першую чаргу ад самых узгадаваўцаў вымагае ўзорнага жыцьця і шчырае любові, а гэтае ўсё абумоўлівае неразрыўнасьць сужэнства. Гэткае думкі Каталіцкая Царква трымалася ад найдаўнейшых часоў. Сьв. Аўгустын (354-430) у кнізе «Аб сужэнскім дабры» піша: «Дабро, што нясе з сабою сужэнства ёсьць наступнае: патомства, вернасьць і сьв. Тайна. Вернасьць сужонкаў значыць, што па-за сужэнствам не павінна быць ніякіх плоцявых зносін з трэцяю асобай. Патомства трэба прыняць з любоўю, даглядаць з дабратою і ўзгадоўваць пабожна. Сьв. Тайна — гэта значыць, што сужэнская сувязь ня можа быць разарваная і што разьведзены муж, ці жонка не павінны ўступаць ў іншае сужэнства нават дзеля патомства».

З гледзішча галоўнае мэты сужэнства — роджаньня патомства — перад бацькамі можа вынікнуць пытаньне: радзіць дзяцей, але нашто? і ча-

му? Кім-жа ёсьць тое дзіця, для каторага як-ні-як трэба некаторыя ахвяры з асабістых выгодаў жыцьця, а часам дык прыносіць і вельмі вялікія ахвяры нават са здароўя і жыцьця?

Вартасьць дзіцяці ня ў тым, што прыходзіць на сьвет новы жаўнер, работнік, пісьменьнік або грамадзкі дзеяч — гэта хутка прамінаючыя становішчы дачаснага жыцьця, але найбольшая вартасьць у тым, што зьяўляецца на сьвет новы грамадзянін для Божага валадарства, бо-ж гэткаю ёсьць найвышэйшая мэта людзкога жыцьця.

Так, чалавек родзіцца на тое, каб жыць для славы Бога, каб праз належнае выконваньне абавязкаў у дачасным жыцьці заслужыць на жыцьцё і шчасьце вечнае. Тут найглыбейшы сэнс працы і ахвярнасьці бацькоў у дачыненьні да сваіх дзяцей: супрацоўніцтва з Богам дзеля прыдбаньня большага ліку «суграмадзян сьвятым і хатніх у Бога» (Эфэз. II, 19).

Для асягненьня вечнага прызначэньня чалавека ня шкода ніякіх ахвяраў. Папа Пій XI у Энцыкліцы аб хрысьціянскім сужэнстве кажа, што хрысьціянская маці калі пазнае словы Збавіцеля аб мацярынстве, «стане вышэй усіх боляў свайго мацярынскага прызваньня, вышэй ад яго турботаў і цяжкасьцяў і з большым ды сьвяцейшым правам, чым тая рымская матрона, маці Гракхаў, будзе магчы ганарыцца ў Госпадзе квітнеючаю грамадкаю сваіх дзяцей. Ды абодвы сужонкі прымуць дзетак з рук Божых ахвотным і ўдзячным сэрцам, як паверany ім Богам скарб, якім будуць карыстацца ня толькі для свае карысьці і карысьці свае зямное бацькаўшчыны, але які ў дзень суду перададуць Богу з зыскам».

Пры сучасным лёгкадумстве ў адносінах да сужэнства і пры нябывалых надужыцьцях ёсьць застрашаючым неразуменьне тае высокае годнасьці, якою надзелена сужэнства з волі Бога і Царквы. Цялеснае злучэньне сужонкаў ёсьць сымбалем злучэньня душы з Богам, Хрыста з Царквою (Эфэз. V, 25 і 32). Гэтае злучэньне ёсьць поўнае, але да гэтага дае права толькі поўнапраўнае сужэнства, у якім яны атрымоўваюць поўнае права мець між сабою ўсе тыя інтымныя суадносіны, якія патрэбныя да поўнага злучэньня так я боку псыхалягічнага, як і з фізіялягічнага.

Пагляды на сужэнства монтаністаў, Тэртуліяна і часткава толстоўцаў, якія гэтыя правы абмяжоўвалі, Царква асудзіла як фальшывыя.

## II. Перашкоды да праўдзівага сужэнства.

Неабходна зьвярнуць увагу на перашкоды да важнага сужэнства, бо тут крыецца выясьненьне на вельмі важкі закід, які ставіцца Каталіцкай Царкве з боку нязнаючых сутнасьці справы, што быццам Каталіцкая Царква «так-жа дае разводы за грошы».

Перашкодамі для сужэнства называюцца такія абставіны, або асабістыя нястачы, якія прынамся з боку аднаго партнэра, жадаючага ўступіць у сужэнства, не дазаваляюць на заключэньне сужэнскага кантракту.

Перашкоды могуць быць **права Божага** і тады абавязваюць усіх людзей, або **права царкоўнага** — тады беспасрэдна адносяцца толькі да вернікаў. Трэба разрозьніць перашкоды толькі **забараняючыя** ўступаць у сужэнства, але не пазбаўляючыя яго важнасьці і перашкоды **уневажняючыя,** або **разрываючыя,** якія заўсёды і усюды робяць сужэнства няважным. Перашкоды могуць быць часовыя і заўсёдныя; яўныя г. зн. ведамыя многім людзям і скрытыя.

Толькі Апостальскі Пасад можа аўтэнтычна сьцьвердзіць, калі і ў якім выпадку права Божае стаіць на перашкодзе да недазволенага сужэнства, а калі напярод яго робіць няважным. Толькі вярхоўнаму апосталу Пятру казаў Хрыстос: «І дам табе ключы царства нябеснага, і што зьвяжаш на зямлі, тое будзе зьвязана на небе; і што разьвяжаш на зямлі, тое будзе разьвязана на небе» (Мат. XVI, 18-19). Гэтыя поўнаўласьці ап. Пятра маюць ягоныя наступнікі Рымскія архірэі.

**Перашкоды забараняючыя** ўступаць у сужэнства — ёсьць наступныя: просты шлюб, легальнае сваяцтва і мяшаная рэлігія. Калі хто не зважаючы на іх уступае ў сужэнства, дык яно будзе недазволеным.

Праз **просты шлюб** разумецца прырачэньне, данае пад прысягай, Богу захаваць дзявоцтва, дасканалую чыстасьць ,не жаніцца, прыняць сьвятарскія сьвячаньні, або ўступіць у манастыр. Таму грашыць той, хто зьвязаны вышэй пералічанымі шлюбамі, стараецца так дзейнічаць, каб іх не датрымаць. Асоба, зьвязаная шлюбамі, пасьля перамяніўшы з важных прычынаў сваю думку і жадаючая ўступіць у сужэнства, павінна зьвярнуцца да Апостальскага Пасаду з просьбай аб звальненьні ад шлюбаў.

**Легальнае сваяцтва** набываецца праз праўную адопцыю (усынаўленьне). Гэтая перашкода можа быць або толькі забараняючай, або нават і ўневажняючай, гэта залежыць ад таго, як яна ўнармована ў цывільным законадаўстве. Напр. у Італіі, Францыі, Вэнэзуэлі і інш. яна рахуецца толькі перашкаджаючаю перашкодаю, тады калі ў Гішпаніі, Болівіі, Бразіліі і інш. краінах адопцыю лічаць перашкодаю ўневажняючаю сужэнства. Царква ў гэтым выпадку датарноўваецца да сьвецкага сужэнскага права, бо і адна і другая разьвязка ня супярэчыць праву Божаму.

**Мяшаная рэлігія.** Каталіцкая Царква ад найдаўнейшых часоў забараняла ўступаць у мяшаныя рэлігійныя сужэнствы. Аб гэтым сьведчаць шматлікія пастановы памесных сабораў. У навейшых часох супраць мяшаных сужэнстваў выступалі па-

пы: Урбан VIII, Клімэнт XI, Бэнэдыкт XIV, Пій IX і Леў XIII.

Чаму Царква супрацiўляецца рэлігійна мяшаным сужэнствам? Дзеля небясьпекі рэлігійнага астываньня, а нават індыфэрэнтызму, якія ў гэткіх выпадках ёсьць вельмі частымі зьявішчамі пад уплывам некаталіцкае стараны. Дзеля небясьпекі, на якую выстаўляецца патомства. Прыкладам у сям'і, дзе бацька каталік, а маці пратэстантка, ці-ж можна спадзявацца, што дзеці будуць узгадаваныя ў каталіцкай рэлігіі? Таму Каталіцкая Царква вельмі неахвотна дазваляе на рэлігійна мяшаныя сужэнствы, пры тым аднак заўсёды вымагае: каб каталіцкая старана мела поўную свабоду на свае рэлігійныя практыкі і каб патомства выхоўвался ў каталіцкай рэлігіі.

Калі хто з каталікоў не атрымаў ад сваіх рэлігійных уладаў дазволу на сужэнства з іншаверцам і меў шлюб перад некаталіцкім духоўным, дык яго сужэнства ня лічыцца важным.

У некаторых краінах абавязвае грамадзян гэтак званы цывільны шлюб. Для каталіка гэткі «шлюб» ёсьць нічым іншым, як звычайнаю рэгістрацыйнаю фармальнасьцю, якая выконваецца пасьля сапраўднага шлюбу.

**Перашкоды ўневажняюча - забараняючыя сужэнства, або разрываючыя.** Каб сужэнства было важным і дазволеным вымагаюцца тры дзейнікі: а) здатныя асобы, б) дабравольная згода абодвых старон і в) належная, прыпісаная Царквою форма шлюбу. Калі гэтыя дзейнікі адсутнічаюць, сужэнства ніколі ня можа быць важным. Сучасны кодэкс кананічнага права вылічае трынаццаць перашкодаў, якія не дазваляюць на сужэнства, або калі-б яно і адбылося, даюць права на яго разрыў.

Заўважым, што Каталіцкая Царква ніколі не ўняважнівае важнага сужэнства, яна толькі аўтарытэтна можа абвесьціць, калі і пры якіх абставінах, яно ня можа быць важным, або ня было важным. Яна сьвята трымаецца запавету Хрыста: «Што Бог зьвязаў, чалавек ня можа разьвязаць». Таму вельмі мыляецца той, хто кажа, што Каталіцкая Царква дае разводы.

Каб лепш усьведаміць у якіх выпадках Царква можа аб'явіць сужэнства няважным, затрымаемся хоць у вельмі скарочаным нарысе на тых перашкодах якія ўневажняюча забараняюць сужэнства. Вось яны:

1. **Няпоўналетнасьць.** Кананічным правам устаноўлены такі век для маладажонаў: для мужчыны 16 гадоў, а для жанчыны 14. Гэта аднак мінімум, ніжэй якога сужэнства лічыцца няважным. Але Царква вельмі налягае на тое, каб людзі жаніліся ў больш сьпелым веку і згодна з добрымі звычаямі паасобных краінаў. У нас на Беларусі нячувана, каб людзі жаніліся ў так маладых гаход і гэта зусім слушна, бо ў нашым клімаце людзі дасьпяваюць крыху пазьней, як у паўднёвых краінах. Старадаўнае беларускае права ўстанаўляла для дзяўчыны век 17 гадоў, для дазволенасьці сужэнства, адгэтуль і паўстала прыказка: «Сямнаццаць гадоў дзеўцы — сама тавар».

Кананічнае права, маючы сусьветны абсяг, мусіла ўзглядніць паўднёвыя краіны, дзе плоцявая і ўмысловая сьпеласьць асягаюцца шмат раней, як у жыхароў паўночных краінаў.

2. **Плоцявая немач.** Тут бярэцца пад увагу здольнасьць абодвых старон да сужэнскага акту. Калі гэты акт немагчымы дзеля нейкае ненармальнасьці плоцявых органаў, тады правам прыроды сужэнства ёсьць няважным, бо прадметам сужэнскага кантракту ёсьць узаемнае права да цела, паколькі яно здатнае да сужэнскага акту.

3. **Папярэдняя важная сужэнская сувязь.** Пакуль жывуць сужонкі, хоць і разлучаныя, ніводнае з іх ня можа заключыць новага сужэнства, бо хто раз аддаў некаму права да свайго цела, ня можа аддаваць яго другому. Дзеля гэтага ніколі сьвятар ня можа даваць шлюбу таму, аб кім не пераканаецца, што ён вольнага стану.

4. **Розьніца рэлігійнага культу.** Тут маецца на ўвеце тая розьніца, якая ёсьць між хрысьціянамі і нехрыстамі. Каталіцкая Царква не дазваляе на гэткія сужэнствы з тых самых прычынаў, аб якіх была мова пры перашкодах мяшанае рэлігіі.

5. Перашкода **сьвятарскага стану** разумеецца гэтак, што ня ёсьць важным сужэнства, калі хтосьці жэніцца, будучы ўжо дыяканам, або сьвятаром.

6. **Урачыстая манашая прафэсія.** Хто урачыста, публічна і дабравольна пад прысягаю забавязаўся на ўсё жыцьцё сумленна захоўваць дасканалую чыстасьць, мусіць гэтае забавязаньне захоўваць заўсёды.

7. **Ухопленьне** — разумеецца насільнае схопленьне жанчыны з мэтаю сужэнства. Пакуль жанчына ня будзе мець вольнага выбару і будзе пад страхам, сужэнства з ёю лічыцца няважным.

8. **Крымінальнае злачынства.** Калі адно з сужонкаў, жадаючы ўвайсьці ў новае сужэнства, дакопвае нейкі крамольны акт на шкоду свайго сужонка, тым самым пазабаўляе сябе права да намеранага сужэнства. Калі прыкладам жонка забівае мужа, каб выйсьці замуж за другога, яе новае замужжа будзе няважным. Сумна, што гэты злачын у нашых часох так часта прапагуецца у друкавых газэтах і на фільмовых экранах.

9. **Кроўнае спароднецьне** ёсьць перашкодаю да сужэнства ў простай лініі заўсёды, а ў бочнай да трэцяга пакаленьня ўключна. Нашы дзяды і прадзеды вельмі дбалі, каб не жаніцца з блізкімі роднымі. Нават цывільнае права забараняе гэткія сужэнствы, бо яны спрычыняюцца да вялікіх сямейных няшчасьцяў. Ня так дуйно ў некаторых правінцыях паўночнае Швэцыі, дзе ад доўгіх гадоў былі частымі сужэнствы ў блізкіх ступенях

спародненьня, зьявілася грозная хвароба крыві ў дзяцей з вялікім процантам сьмяротнасьці. Лекары сьцьвердзілі, што гэта ёсьць вынікам сужэнстваў між спароднеными.

10. **Сваяцтва.** Тут бярэцца пад увагу блізкасьць між мужам і раднёю яго жонкі і наадварот. Гэта значыць, што чалавек пасьля сьмерці свае жонкі, ня можа жаніцца, ані з яе маткаю, ані з роднымі пакойніцы да другое ступені.

11. **Публічная прызваітасьць** падобная да папярэдняе перашкоды, але з тою розьніцаю ,што сужэнства было няважным, або проста жылі на веру і пасьля гэтага катораесь з іх жадае ажаніцца, ці выйсьці замуж з блізкімі роднымі прыжывалкі. Напрыклад нехта жывучы нейкі час на веру, пакідае сваю любошку і пачынае сватацца да яе маткі.

12. **Духовае сваяцтва** паўстае між кумамі і іхным хрэсьнікам, між тым хто хрысьціць і ахрышчанымі, бо хто хрысьціць, родзіць чалавека да надпрыроднага жыцьця, а той, хто трымае да хросту становіцца духовым бацькам ахрышчанага. Гэта перашкода чыста царкоўнага права, але дыспэнза ад яе даецца толькі ў выняткових выпадках, бо Царква высока цэніць духовае сваяцтва.

13. **Легальнае сваяцтва** паўстае праз адопцыю. Аб гэтай перашкодзе ўжо гаварылася перш. Яна ёсьць разрываючаю перашкодаю толькі ў тых краінах, дзе за гэткую яе лічыць цывільнае права.

Апрача вышэй пералічаных перашкодаў яшчэ неабходна ўспомніць аб тым, што зьяўляецца істотным у сужэнскім кантракце — гэткаю ёсьць дабравольная згода да сужэнства. Калі асобы ня маюць перашкодаў да сужэнства, дык гэта ня значыць, што іх можна злучыць ў сужэнства супраць іх волі. Не. Сужэнства лічыцца важным толькі тады, калі зацікаўленыя і праўна здольныя асобы ўступяць у сужэнства дабравольна і гэты акт, ці кантракт адбудзецца перад сьведкамі і пры афіцыяльным удзеле Царквы. Сужэнства вымушанае пад страхам, або дакананае пад абманам што да асобы, або не багаслоўленае сьвятаром — ёсьць няважным.

Паводля навукі Каталіцкае Царквы сьвятар ёсьць толькі афіцыяльным сьведкаю і багаслаўляе сужэнства, а сьв. Тайну сужэнства даюць сабе самі маладыя праз выяўленьне згоды вонкавым знакам. Таму там, дзе рэлігія прасьледуецца, дзе сьвятар ня можа быць прысутны, сужэнствы заключаюцца без сьвятара і ёсьць важнымі, але — паўтараем — гэта толькі ў выняткових абставінах. У нармальных умовах да важнасьці сужэнства вымагаецца найменш пяць асобаў: ён, яна, сьвятар і два сьведкі.

### III. Фальшывыя навукі аб сужэнстве.

Папа Пій XI у Энцыкліцы аб хрысьціянскім сужэнстве кажа: «Чым мілей разважаць аб вялікай годнасьці чыстага сужэнства, тым больш балюча глядзець, як яно, асабліва сёньня, паніжаецца і амаль усюды аганьваецца».

«Бо-ж топчацца і асьмешваецца сужэнства ўжо ня толькі па кутках, але так-жа публічна з усёй бессаромнай сьмеласьцю. Робіцца гэта жывым словам, друкам, у тэатрах, раманах, расказах і эротычных сатырах, у кінах, праз радыё, за пасрэдніцтвам агулам усіх сучасных вынахадаў. Разводы, чужалоствы, найагіднейшыя жарсьці або выхваляецца, або малюецца прынаднымі колерамі, якбы ў іх ня было нічога грэшнага і паганага. Выдаюцца кнігі, расхваленыя быццам навуковыя, хоць у сапраўднасьці яны толькі прыкрашаныя дзяружкаю навуковасьці, каб лягчэй здабыць сабе давер чытачоў. Прагалошваныя ў іх прынцыпы падаюцца быццам «вынікі навачаснае веды» і то веды, якая нібыта аб'ектыўна стараецца устанавіць выключна праўду, адкідаючы старыя забабоны продкаў. Нажаль з тых даўных паглядаў яны выкідаюць так-жа прынцыпы хрысьціянскае навукі аб сужэнстве».

Далей Сьвяцейшы Айцец пераходзіць да крыніц зла. Коранем памылак ёсьць цьверджаньне, што сужэнства не ўстаноўлена Стварыцелем і што яго Хрыстос ня ўзьняў да годнасьці сьв. Тайны. Таму яны далей кажуць, што сужэнства ёсьць вынахадам людзей, да чаго дайшоў людзкі розум пад уплывам розных прычынаў і што яно залежыць выключна ад людзкое волі. Выснаўкі з гэткіх прадпасылак ёсьць страшныя. Бо тады ўсе правы і абычаі, якімі кіруецца сужэнства мелі-б залежаць толькі ад людзкое волі. Будучы лягічнымі, сейбіты фальшу мусілі-б зраўняць бессаромныя паводзіны вулічніцы з чыстым мацярынствам добрае сужонкі.

Былі так-жа такія тэорэтыкі, якія жадалі мець сужэнствы «на пробу», часовыя, іншыя выдумоўналі тэорыю вольнае любові. Шмат вылілі чарніла для прапаганды гэткіх ідэяў бязбожніцкія пісьменьнікі. Адзін з найбольш рухавых французскіх энцыклёпэдыстаў Дідро (1713-1784) ў творы «Жак фаталіст» піша: «Асаблівыя прынцыпы паводля якіх пасьля жанімства адзін мужчына і адна жанчына належаць выключна да сябе і на ўсё жыцьцё, уважаю за супроцьлежныя правом прыроды і супроць розуму». Падобна пісалі мадам дэ Сталь (1766-1817), Юры Занд (1803-1876), Тодар Гладков і цэлы рад ім падобных.

Усьлед за гэткімі тэорыямі йдзе практыка. Патомства пачынаюць уважаць лішнім цяжарам: для маці пры роджаньні і для абох бацькоў пры ўзгадаваньні. Таму ўцякаюць ад цяжару ў грэшны спосаб. Адны не дапускаюць да зачацьця патомства, другія ліквідуюць плод у лоне мацеры, трэція знаходзяць спосабы забіць дзіця пры народжаньні.

Сьв. Аўгустын гэткіх бацькоў называў проста

крывяжаднымі, дадаючы, што «калі абое сужонкі жадаюць, каб плод хутчэй згінуў у лоне маткі, чым радзіўся на сьвет, дык яны ня ёсьць сужонкамі, а калі ад пачатку былі такімі, тады злучыліся не для сужэнства, а для распусты».

Вострыя гэта словы асуджэньня, але сапраўды, што можа быць агіднейшага ад таго відовішча, калі бацькі становяцца забойцамі свайго нявіннага і безбароннага дзіцяці, замяняючы лона мацеры на дамавіну для роднага дзіцяці.

На ўсе фальшывыя навукі аб сужэнстве і на ўсе грэшныя практыкі найлепшы адказ дае само жыцьцё. Гляньма на тых людзей, што аддаюцца грэшным практыкам. Найчасьцей гэта нэрвова хворыя людзі. Заўсёды яны незадаволеныя, хоць перасычаны распуснай роскашшу. Як часта гэта вядзе да разводаў, а пасьля колькі пускае на сьвет горкіх сіратаў, што ня знаюць, хто іх бацька, хто матка.

Вялікае няшчасьце для сужэнства нясе прапагандна так званае вольнае любові, асноўная-ж памылка гэтае апошняе палягае ў тым, што яна ў сужэнстве па-за цялеснай сувязьзю ня бачыць сувязі душ, не бяраэ пад увагу асноўнае мэты сужэнства — патомства, паніжае жанчыну з яе высокага званьня маці і дзевы, да звычайнага прадмету заспакаеньня пажадлівасьці, гэта непазьбежна вядзе да канфлікту з прыродным правам.

Францускі сацыяліст Лявон Блюм у сваёй дактарскай тэзе даказваў, што фізіялягічна і псыхалягічна немагчыма здаволіцца толькі аднэй жанчынай, калі маеш больш чым 20 або 40 гадоў. Калі аднак той-жа Блюм задумаўся, што ён могбы адказаць сваёй дачцы на пытаньне аб вольнай любові, дык напісаў: «Ніводная праблема мяне толькі ня мучыла, як гэтая і яшчэ ня ведаю, якбы справу вырашыў» («Фамалійнае ўзгадаваньне», Парыж 1929). Тут мадэрны тэорэтык знайшоўся ўпалажэньні шынкара адносна п'яніцы і мусіў-бы як той прызнацца, што «шынкар кожнага п'яніцу любіць, але за ніводнага дачкі замуж аддаць ня хоча».

Артыкул быў-бы няпоўны, ня ўспомніўшы, што і між беларусамі шкодныя тэорыі адносна сужэнскага жыцьця знайшлі сваіх пасьлядоўнікаў. Аб гэтым можа сьведчыць артыкул праф. М. Сяргеява ў «Мэдычнай Думцы» Нр. 2. с. 12-19 «Уліваньне за абалонкі, як мэтад спыненьня позьняе цяжарнасьці».

Названы артыкул азначаецца тым, што спыненьне цяжарнасьці ў жанчын для аўтара не наводзіць ніякіх скрупулаў. Ён паўтарае думкі і практыкі розных лекароў, а пасьля расказвае аб практыках у акушэрскай клініцы Магілёўскага Мэдыцынскага Інстытуту і ў шпіталях гарадоў Пскова і Рыгі. Для нас важнымі ёсьць тыя матывы, дзеля якіх перарывалася цяжарнасьць. І вось чытаем, што на 41 выпадак спаронаў маецца толькі адзін выпадак вузкога логава, тры дзеля эпілепсіі, тры дзеля нястрымнае рвоты, чатыры дзеля нейкіх псыхічных хваробаў, шэсьць дзеля тубэркулёзу лёгкіх, 16 дзеля іншых хваробаў, а восем дзеля сацыяльных прычынаў!

Прачытаўшы гэтыя аўтэнтычныя даныя прафэсара нявольна чалавек пытаецца: што-ж гэта за прафэсар, які пералічаныя прычыны ўважае за ўпаўнаважнюючыя яго да забіваньня дзяцей у лоне мацеры?

Ці-ж паважны вучоны асьмеліцца цьвярдзіць, што дзеля сацыяльных прычынаў можна забіваць нявіннага чалавека, спрычыняць спарон? Ды ці агулам існуюць такія прычыны, каб умысна можна было спыніць цяжарнасьць? Успомнены аўтар нават і словам не парушае справы дазволенасьці спароннаў, быццам яна ўжо вырашана. Ці яно сапраўды так? На адным сходзе Мэдычна-праўнага Таварыства ў Лёндане Э. Б. Руссэль парушыў такое пытаньне: калі жанчыне ня ўдасца недапусьціць да зачацьця, дык ці мае яна права забіць жыцьцё эмбрыёну? На гэта старшыня таварыства лёрд юстыцыі Акін адказаў: «Сугэстыя, што жанчына мае права пакончыць з жыцьцём свайго дзіцяці ёсьць для мяне навасьцю. Але калі яна мае гэткае права, дык калі яго траціць? Ці пры нараджэньні? Калі так, дык чаму?» (Halliday Sutherland, Laws of life, Sheed and Ward. 1946, s. 18-19).

Што да паасобных прычынаў спыненьня цяжарнасьці праф. Сяргеяў падае 6 выпадкаў тубэркулёзу лёгкіх. Вось-жа ў вышэйуспомненай кніжцы (с. 82) падаецца асьведчаньне д-ра Ріста з Парыжа: «Ня толькі што ня ёсьць сьцьверджана, быццам спарон затрымоўвае разьвіцьцё тубэркулёзу, але я пераканаы, што гэта прысьпяшае яго разьвіцьцё».

Адносна іншых матываў, паданых праф. Сяргеевым так-жа ёсьць нямала засьцярогаў, а там дзе навука сумняецца — прыведзены прыклад з сухотамі — дык з гледзішча толькі навуковага лекар ня мае права рызыкаваць людзкім жыцьцём для экспэрымэнтаў, бо чалавек ня жаба.

Можна аднак сябе пацешыць, што становішча праф. Сяргеява да спаронаў ня ёсьць агульнае між беларускімі лекарамі, за прыкладамі далёка шукаць ня трэба бо ў той-жа «Мэдычнай думцы» д-р А. Гарагляд на стр. 24 піша: «Спароны, перарываньне існуючае цяжарнасьці, гэта забойства. Гэтак разглядае гэткую «рэгуляцыю» так этыка, як і законы. Спарон, гэта вырваньне усадоўленага зародка. Хэмічна, апэрацыйна, фахова ці фушэрска, гэта ўсёроўна астаецца забойствам і розьніцца ад забойства выраслага чалавека магчыма, з гледзішча хрысьціянскае этыкі, толькі колькасна, вагою забітае жывое матэрыі».

Не на ўсё можна згадзіцца, што д-р Гарагляд піша на працягу ўсяго свайго артыкулу аб рэгу-

ляцыі забярэмяненьня, але прыведзены тут цытат трэба шчыра прывітаць. Ён ёсьць найлепшаю крытыкаю самога артыкулу і адказам праф. Сяргеяву.

Беларусы маюць асаблівую прычыну ўважліва сачыць за ўсякімі ідэямі адносна сямейнага жыцьця і сужэнства. Бо на працягу вякоў вынішчалі беларускі народ розныя дзейнікі і дзеячы, а цяпер масавы вынішчаюць агенты НКВД, а бальшавіцкая ідеалёгія раскладая сямейнае жыцьцё знутра — вось-жа ў абліччы так грознае сытуацыі нашым адказам мусіць быць мабілізацыя ўсіх творчых дзейнікаў для дабра беларускага народу і самы рашучы адпор на ўсе руйнацкія тэорыі і падшэпты.

**а. Ч. Сіповіч.**

# Сьв. Тамаш Мор

(Заканчэньне)

### Рэлігійныя творы Мора.

Мор напісаў шмат і цікавых твораў у абароне каталіцкае веры супраць пратэстантызму. Бо хоць пратэстантызм у Англіі быў забаронены, але распаўсюджваўся, даволі хутка. Шмат да гэтага прычыніўся сам кароль, які афіцыяльна аставаўся каталіком, а неафіцыяльна ўспамагаў пратэстантызм. Галоўным прадстаўніком ангельскага пратэстантызму быў Вільям Тіндаль. Ён жыў заграніцаю. і перасылаў нелегальна свае творы ў Англію. І вось перадусім супраць гэрэзіяў Тіндаля выступае Тамаш Мор. У 1528 г. выходзіць «Дыялёг адносна гэрэзіяў і матэрыі рэлігіі». Кніга напісана ў прыгожай тагачаснай ангельскай мове ў форме дыялёгу між Морам і пасланцом ягонага сябры, які, начытаўшыся гэрэтыцкіх кнігаў, пачаў сумнявацца ў некаторых праўдах каталіцкае веры. На пачатку Мор вылічае тыя памылкі, якія зрабіў Тіндаль у перакладзе сьв. Пісаньня на ангельскую мову, потым выясьняе, што інтэрпрэтацыя сьв. Пісаньня ня ёсьць справаю разумовае спэкуляцыі адзінак, але што ў гэтай справе адзіная Царква мае рашаючае права. Далей Мор шкадуе, што пасланец ня хоча зьвяртаць увагі на творы айцоў Царквы і пагарджае філязофіяй. Калі пасланец кажа, што розум ёсьць ворагам веры, Мор даказвае, што розум ня ёсьць ворагам, але хутчэй слугою веры.

На ўвагу пасланца, што ён ня мог-бы верыць, калі-б Царква вучыла адно, а сьв. Пісаньне — другое, Мор адказвае, што разьбежнасьці між вучэньнем Царквы і сьв. Пісаньнем няма і быць ня можа. Больш таго, калі-б ня было Царквы, дык людзі ня ведалі-б, якія кнігі належаць да сьв. Пісаньня, а якія не.

Уканцы Мор пераконвае пасланца, што Каталіцкая Царква ёсьць устаноўленаю Богам і назначаная дзеля беспамыльнага азначэньня; што такое вера, што ёсьць сьв. Пісаньне і як сьв. Пісаньне трэба паясьняць. Кніга канчаецца тым, што пасланец поўнасьцю пераканаΗы, разьвітаецца прыязна з Морам.

У наступным 1529 г. выходзіць кніга Мора «Просьба душ», як адказ на кніжку Сымона Фіша «Просьба жабракоў». Мор у «Просьбе душ» выступае ў абароне духавенства і зьвяртаецца супраць праектаванае канфіскацыі царкоўных маемасьцяў. Ён пералічае, колькі дабра зрабіла ў Англіі Каталіцкая Царква. У тым часе ўсе школы, унівэрсытэты, шпіталі, прытулкі для старых утрымоўвала Царква. Да таго ў манастырох Мор бачыў мейсцы сталае малітвы за душы ў чысьцілішчы.

Пасьля свайго зрачэньня з канцлерства Мор напісаў шмат іншых твораў важнейшымі з якіх ёсьць: «Абвяржэньне», «Ліст супраць Фірта», «Аполёгія», «Перамога» і «Адказ на ,Тайную Вячэру'».

Удзячнае духавенства хацела падараваць Мору вялікую суму грошаў, аднак Мор адмовіўся, кажучы, што лепш хай-бы ўсе гэтыя грошы ўтапіліся ў Тамізе, чым каб ён, або хто небудзь з яго сям'і ўзяў з гэтае сумы хоць адзін пэнс. Для ўсьведамленьня вартасьці гэтага адказу, трэба прыпомніць, што пасьля зрачэньня з канцлерства Мор быў вельмі бедны і цярпеў вялікія нястачы.

Біяграфія Мора ня была-б поўнаю, калі-б мы не затрымаліся хоць коратка на яшчэ адной характэрнай азнацы ягонае дзейнасьці. Не як дзяржаўны дзеяч і нават не як абаронец веры, але як справядлівы і непадкупны судзьдзя Мор здабыў сабе славу і ўдзячнасьць усяго народу.

Некаторыя з яго родных думалі, што Мор быў аж празмерна справядлівы. Зяць Ропэр скардзіўся, што сваякі, а нават слугі іншых высока пастаўленых людзей мелі добры пабочны даход ад інтэрэсантаў, якім яны аблягчалі доступ да сваіх гаспадароў, а сваякі Мора не маглі нічога зарабіць, бо ён быў даступны заўсёды і для ўсіх бяз ніякае рэкамэндацыі.

Аб тым, да якое ступені Мор быў справядлівы і непадкупны, да нас дайшлі апісаньні шматлікіх інцыдэнтаў, калі ўдзячныя людзі, хацелі даць яму падаркі і як ён умеў палітычна выйсьці з сытуацыі, каб ня прыняць падарку і не абразіць таго, хто яго дае.

Калі Мор стаўся канцлерам, у дзяржаўнай канцыляры ляжалі справы, якія чакалі палагоджаньня 20 гадоў. Мор адразу ўзяўся за іх і залегласьці

хутка пачалі зьнікаць. Якое мусіла быць зьдзіўленьне прысутных, калі аднаго дня Мор загадаў падаць сабе наступную справу, а яму адказалі што больш няма ніякае справы. Гэты дзень Мор загадаў запісаць у дзяржаўных актах, а ўдзячны народ улажыў на гэтую тэму гумарыстычную песеньку.

## Мучаніцтва і сьмерць Мора.

Першы год пасьля зрачэньня з канцлерства для Мора прайшоў параўнаўча спакойна. Але вось 23 траўня 1533 г. справа разводу караля дайшла да канца. Кранмэр, з ласкі караля Кантэрбэрыйскі архібіскуп абʼяўляе жанімства Гэнрыка з Кацярынаю няважным, а праз 5 дзён абʼяўляе важным шлюб Гэнрыка з Ганнаю Болейн. Ужо 1-га чэрвеня 1533 г. Ганна была каранаванаю ў Вэстмінстэрскім абацтве. Мор адсутнічаў на каранацыі і праз гэта ўгнявіў новую каралеву.

Уканцы сакавіка 1534 г. збылося тое, чаго Мор найбольш баяўся. Паслухмяны парлямант выдаў акт, у якім загадвалася ўсім дарослым грамадзянам краю злажыць прысягу на вернасьць каралю і новай каралеве. У прысязе было сказана, што кароль зьяўляецца найвышэйшым галавою Царквы ў Англіі. Да таго трэба было прысягнуць на Акт Насьледзтва, які вызначаў патомкаў ад Гэнрыка і Ганны Болейн насьледнікамі ангельскага каралеўскага пасаду.

Ад гэтага часу жыцьцё Мора было ў небясьпецы. У нядзелю 12-га красавіка 1534 г. ён атрымаў загад зьявіцца на другі дзень у паляц Лямбэт, каб там злажыць прысягу. Таго-ж дня Мор разьвітаўся са сваею сямʼёю, якое ён ня меў надзеі больш пабачыць. На другі дзень раніцаю ён выспаведаўся, выслухаў раньнюю імшу, прычасьціўся і адправіўся на другі бераг Тамізы ў паляц Лэмбэт. Там яго ўжо чакалі прадстаўнікі караля і запрапанавалі злажыць прысягу. Ён папрасіў ад іх тэкст прысягі і Акт Насьледзтва і, прачытаўшы іх, адказаў, што згаджаецца з Актам Насьледзтва, бо парлямант мае права вызначаць насьледнікам пасаду, каго хоча, але прысягі злажыць ня можа.

Мора пратрымалі 44 дні ў паляцы, бачучы аднак, што ня могуць яго зламаць, адправілі ў турму Лёнданскі Таўвэр. Разам з ім быў адпраўлены і ягоны прыяцель біскуп Фішэр, які таксама адмовіўся злажыць прысягу каралю.

У турме Мор шмат пераменіўся духова. Выглядала, што ён быццам быў рад, што знайшоўся ў турме. Ужо ў першым сваім лісьце, да свае каханае дачкі Маргарыты, ён кажа: «З рэчаў гэтага сьвету я не жадаю нічога больш, чым тое, што маю цяпер». І далей: «Яны думаюць, што пасадзіўшы мяне ў турму, зрабілі мяне нешчасьлівым, яле я запэўніваю цябе, мая дарагая дачка, што каб ня жонка ,ня ты і ўсе мае дзеці, за чый лёс я чуюся адказным, я зачыніў-бы сябе ўжо даўно ў больш строгіх сьценах».

Дачцы Маргарыце ўдалося атрымаць дазвол пабачыць бацьку ў турме.. Захавалася апісаньне іхняе гутаркі ў лісьце Маргарыты да яе стрэчнае сястры Алісы. Маргарыта старалася намовіць бацьку злажыць прысягу і скончыць усе гэтыя няпрыемнасьці. На гэта бацька жартабліва прыраўняў яе да Эвы, якая скаштаваўшы забароненага плоду, спакусіла да гэтага і Адама. На аргумант Маргарыты, што шмат разумных людзей злажыла прысягу, Мор адказвае, што ўва ўсім хрысьціянскім сьвеце ёсьць далёка больш разумных людзей, якія думаюць, так як ён. Уканцы Маргарыта дакарала, што бацька раздумаецца, калі ўжо будзе запозна. На гэта Мор адказаў: «Запозна, Маргарыта? Я прашу ўсемагутнага Бога, каб калі-б мне прышла нейкая такая думка ў галаву, дык каб гэта было ўжо сапраўды запозна», і далей: «Як-бы я слабы ня чуўся, я ніколі ня ўсумнюся ў Бога. І хаця-б мяне ўсяго ахапіў страх, я буду памятаць, як аднойчы ап. Пятро з прычыны свае слабое веры пачаў тануць, дык і я буду рабіць тое, што ён зрабіў тады: клікаць Хрыста на ратунак. І тады, я веру, Ён прасьцягне да мяне Сваю сьвятую руку і ў часе буры ня дасьць утапіцца».

У турме Мор пісаў шмат, але ягоныя творы з таго часу маюць зусім іншы характар, чым папярэднія. На свабодзе ён быў перадусім змагаром за веру супраць гэрэтыкаў, а ў турме яго больш не аабходзяць справы гэтага сьвету, дык ягоныя творы набіраюць больш свабоднага і спакойнага тону. Тут ён напісаў «Дыялёг суцяшэньня», у якім між іншым кажа: «Калі чалавека спатыкаюць няпрыемнасьці за тое, што ён хацеў справядлівасьці, або стаяў у абароне Бога, дык калі тады ён будзе стаяць непахісна і захавае сваю веру, усе ягоныя няшчасьці Бог пераменіць у ягоную славу».

Іншым творам, які Мор напісаў у турме, быў «Трактат аб цярпеньні», у якім ён разважае аб цярпеньні Хрыста і шукае падтрымкі і пацехі для сябе. Іншы вязьнічны твор Мора быў «Трактат аб прыманьні Найсьвяцейшага Цела нашага Госпада» — сам назоў кажа аб ягоным зьмесьце. У творы «Пэўная пабожнасьць» Мор выказвае свае адносіны да тых, якія яго прасьледавалі:

«Не жадай нічога дрэннага ніводнаму жывому чалавеку. Бо гэты чалавек ёсьць або добры, або дрэнны. Калі ён добры і ты жадаеш яму кепскага, дык ты сам ёсьць дрэнны. Калі-ж ён ёсьць дрэнным, то або ён паправіцца і памрэ добрым ды пойдзе ў неба, або не направіцца і пойдзе ў пекла. Калі ён паправіцца і будзе збаўлены, дык напэўна там у небе ён будзе любіць мяне ад шчырага сэрца і я яго буду любіць таксама. Дык як-жа цяпер

ненавідзець таго чалавека, якога пасьля буду любіць вечна? ... З другога боку, калі-б гэты чалавек астаўся дрэнным, дык яго чакаюць такія страшныя вечныя мукі, што я павінен быў-бы быць злым і закамянелым чалавекам, калі-б яму тут жадаў дрэнна, замест шкадаваць яго».

У разважаньнях над «Кнігай аб гадзінах» Мор разьвітваецца з гэтым сьветам і шукае суцяшэньня ў Богу.

Тымчасам падзеі на каралеўскім двары ішлі сваёю дарогаю. Тут трэба зазначыць, што арыштаваньне і замкненьне ў турме Мора і Фішэра было супраць тагачасных законаў. Хоць Мор і адмовіўся зложыць прысягу, але ён не падаваў прычыны, чаму так пастуціў. Ён, як праўнік ведаў, што людзей судзяць за словы і ўчынкі, а не за маўчаньне. Да таго Мор адмовіўся асуджаць тых, якія зложылі прысягу, бо ўважаў, што ня мае права быць судзьдзёю сумленьня іншых людзей. Аднак сам факт, што Мор выбраў лепш турму, чым прысягу, быў вымоўным фактам, які прамаўляў сам за сябе і зрабіў вялікае ўражэньне на шматлікіх людзей.

Як не бяспраўнымі былі ўсе злачынствы Гэнрыка VIII, аднак ён заўсёды стараўся надаць ім выгляд легальнасьці. Каб расправіцца з Морам і Фішэрам, яму трэба было ўвесьці новыя «законы». I вось 1-га лютага 1535 г. паслухмяны парлямант выдае два акты: першы, які прадбачваў пакараньне турмою тых, што адмовіліся зложыць прысягу і другі, які ўстанаўляў кару сьмерці для тых, што адмаўлялі каралю, які небудзь з ягоных тытулаў. Згодна з гэтым актам, кароль мог абвінаваціць Мора ў злонамераным няпрызнаньні каралеўскага тытулу найвышэйшае галавы Царквы ў Англіі.

Перад сваім канцом Мору давялося пабачыць сьмерць сваіх шматлікіх прыяцялёў. Першаю ахвяраю новага акту былі картузіянскія манахі; тыя самыя манахі, між якіх Мор жыў 4 гады, будучы студэнтам права. Першы, хто меў пацярпець страшную сьмерць, быў Гаўгтон ігумэн картузіянскага манастыра. Яго каты падвесілі, распаролі жывот і яшчэ з жывога пачалі выцягаць нутранасьці. У часе гэтых страшэнных мукаў ігумэн шаптаў: «О найсалодшы Ісусе, будзь ласкаў для мяне ў гэтую часіну». Іншыя прыгавораныя на сьмерць, чакаючы на сваю чаргу, былі сьведкамі гэтае страшэннае сцэны, але яны ня мелі страху і прамаўлялі да навакольнае таўпы, намаўляючы слухацца караля ўва ўсім, што ня было супраць царкоўнага і Божага права.

Так згінулі адважныя манахі ў абароне каталіцкае веры. Хутка пасьля першых мучанікаў 19 чэрвеня была замучана такім-жа страшэнным спосабам другая партыя манахаў з картузіянскага манастыра на чале з Ньюдігат.

Тымчасам набліжаўся канец біскупа Фішэра і Тамаша Мора, якія сядзелі ў турме ўжо амаль 15 месяцаў. Папа зрабіў Фішэра кардыналам, спадзяючыся, што павага кардынальскае годнасьці абароніць яго перад сьмерцю. Але калі Гэнрык VIII даведаўся аб гэтым назначэньні, закрычаў у гневе, што мусіць Фішэр будзе насіць свой кардынальскі капялюш у руках, бо галавы ён ня будзе мець. 17 траўня той самы суд, які быў засудзіў на сьмерць картузіянскіх манахаў, засудзіў так-жа на сьмерць Фішэра за няпрызнаньне каралю тытулу галавы Царквы, а 22 чэрвеня прысуд быў выкананы.

Уканцы прышоў час суду над Морам. — 1-га ліпеня яго прывялі ў Вэстмінстэрскі Ратуш на суд. Канцлер Одлей прычытаў акт абвінавачаньня і сказаў, што Мор вельмі абразіў караля, аднак кароль гатоў яму прабачыць, калі ён зьменіць сваю думку. На гэта Мор адказаў: «Мой лёрд, я шчыра дзякую за вашую добрую волю, аднак я малю ўсемагутнага Бога, каб Ён падтрымаў мяне ў маёй пастанове да апошняе хвіліны майго жыцьця. Што да вашага акту абвінавачаньня, дык ён вельмі доўгі, а мая памяць з прычны хваробы і доўгае турмы так аслабела, што баюся, ці змагу на яго адказаць». Мора абвінілі ў сьведамым супраціўленьні каралеўскаму разводу. На гэта Мор адказаў, што ён паступаў згодна са сваім сумленьнем і калі-б ён хаваў праўду перад сваім каралём, дык быў-бы дрэнным і неляяльным падданым. На другое абвіненьне, што Мор злоўмысна ня прызнаваў каралеўскага тытулу галавы Царквы, ён адказаў, што ў гэтай справе да гэтага часу ён маўчаў і ніколі не забіраў голасу, «а за маўчаньне ані ваш, ані які іншы суд на сьвеце ня мае права мяне судзіць». На аргумэнт суду, што гэткае маўчаньне зьяўляецца доказам злое волі, Мор адказаў, што паводля старое максымы цывільнага права маўчаньне ёсьць знакам згоды і павінна прамаўляць на карысьць Мора, а не на абвінавачаньне. Мор выступае ў абароне маўчаньня і зазначае, што ў справах сумленьня кожны чалавек павінен дбаць аб чысьціні свайго сумленьня і аб збаўленьні душы.

Аднак усе апраўданьні Мора не маглі выратаваць яго, бо вынік суду ўжо быў ведамы згары. Прысяжныя судзьдзі пасьля 15-ці мінутнае нарады прызналі яго вінаватым. Пасьля гэтага канцлер Одлей прыступіў адразу да чытаньня прысуду, аднак Мор перапыніў яго, кажучы: «Мой лёрд, калі я быў судзьдзёю, дык тады быў звычай, перад прысудам пытацца абвінавачанага, што ён мае сказаць у сваю абарону». Одлей зьмяшаўся, спыніў чытаньне прысуду і даў слова Мору. Тады Мор сказаў:

«Бачучы, што вы хочаце мяне засудзіць, Бог ведае за якую правіну, я хачу аблягчыць маё сумленьне і сказаць, што я думаю аб тым акце, на аснове якога вы мяне асуджаеце.

Пакольні абвіненьне аснуўваецца на парлямэнтарным акце, які працівіцца Божаму і царкоўнаму праву, дзеля гэтага вашае права не дастатковае, каб асудзіць, якога небудзь хрысьціяніна, бо ніякі сьвецкі валадар ня мае права узурпаваць сабе права, якое Сам Збавіцель даў ап. Пятру і яго насьледнікам... Ніякае каралеўства, будучы толькі малою часткаю ўсяго хрысьціянскага сьвету, ня можа ўстанаўляць правоў супярэчных усёй Хрысьціянскай Каталіцкай Царкве...»

Одлей перабівае Мора і кажа, што амаль усе біскупы, унівэрсытэты і вучоныя людзі прызналі датычны акт парляманту важным. На гэта Мор адказвае, што ён ня ёсьць у меншасьці:

«Я ня сумняюся, што так ёсьць у гэтым каралеўстве, але ў цэлым хрысьціянскім сьвеце ёсьць шмат больш біскупаў і вучоных, якія думаюць так як я. А калі я да жывых дадам тых, якія ўжо памерлі, і з якіх вельмі шмат ёсьць сьвятымі, я пэўны, што калі-б яны жылі цяпер, усе думалі-б так, як я думаю цяпер. І дзеля гэтага я не павінен падпарадкоўваць сваё сумленьне законам аднаго вашага парляманту, маючы за сбою ўсе іншыя прляманты ўсяго хрысьціянства».

Але ніякія доказы Мора, не зьмянілі пастановы судзьдзяў і Мор спакойна выслухаў прысуд сьмерці. Калі пасьля прачытаньня прысуду, спыталіся, ці ён мае яшчэ што небудзь сказаць, Мор адказаў: «Больш я ня маю нічога сказаць акрамя таго, што як сьв. Павал быў прысутны пры сьмерці сьв. Сьцяпана і нават пільнаваў вопратку забойцаў яго, а цяпер яны абодва ёсьць у небе, таксама і я веру і буду маліцца, каб вы, што тут былі маімі судзьдзямі і асудзілі мяне на сьмерць, каб пасьля мы маглі спаткацца разам у небе».

Калі Мора вялі з Вэстмінстэрскага Ратушу назад у турму з сякераю, зьверненаю вастрыём у ягоным напрамку, па дарозе сабралася шмат людзей. Між імі быў сын Мора, Джон; ён прарваўшыся праз кардон вартаўнікоў, прасіў на каленях, апошняе бацькаўскае багаславеньне. Недалёка ад Товэрскае турмы чакала Мора каханая дачка Маргарыта, яна таксама прарвалася праз кардон вартавых і атрымаўшы на каленях апошняе бацькаўскае багаславеньне, абняла яго ногі і пачала іх цалаваць. Разьвітаўшыся так, яна адышла, але раптам зноў павярнулася і кінулася да бацькі. Мор трымаўся ўвесь час спакойна і толькі прасіў дачку, каб малілася за яго.

Апавяданьні аб апошніх днёх жыцьця Мора сьведчаць, што ўжо тады людзі былі пераканаты аб ягонай сьвятасьці, а гумар Мора стаўся амаль легэндарным.

Некалькі дзён перад сьмерцю Тамаш Мор напісаў прыгожую малітву і пераслаў сваёй дачцы Маргарыце, каб ня могучы з сабою бачыцца маглі злучыцца ў супольнай малітве.

Напярэдадні сьмерці Мор піша апошні ліст дачцы Маргарыце, у якім пасылае ўсёй сям'і сваё апошняе багаславеньне і просіць усіх маліцца за яго тут на зямлі, а ён не забудзе маліцца за іх у небе.

Уканцы прышоў дзень 6 ліпеня 1535 г., на калі была назначана экзэкуцыя. Шмат людзей сабралася праводзіць Мора. Ён ішоў на сьмерць спакойны, паважны, адзеты ў сваю найлепшую вопратку і трымаў у руках крыж. Узышоўшы на эшафот, ён коратка прамаўляў да сабраных, просячы іх маліцца за сябе і абяцаў маліцца за іх на тамтым сьвеце, прасіў маліцца за караля, каб Бог накіраваў яго на добрую дарогу і ўканцы запэўніў, што ён уміpae верным слугою караля, але перадусім слугою Божым. Пасьля гэтага ён стаў на калені і голасна адмовіў 51-ы псалом. Калі кат прасіў яго прабачэньня, Мор абняў яго, пацалаваў і сказаў, што ён яму мае зробіць найбольшую прыслугу, якую калі-небудзь хто яму зрабіў. Пасьля гэтага ён спакойна палажыў галаву на калодку.

Так загінуў адзін з найбольшых людзей, якіх калі-небудзь выдала Англія. І ніхто да гэтага часу не схарактэрызаваў яго лепш, як гэта зрабіў ён сам перад сьмерцю, што ён быў «верным слугою караля, але перадусім слугою Божым».

**А. Надсон.**

# Боская апека

Чытаючы на старонках часапісу падзеі з жыцьця, дзе Бог асаблівым спосабам даў адчуць людзям сваю прысутнасьць, мне часта ўспамінаюцца некаторыя здарэньні з майго жыцьця, калі міласэрны Бог праявіў нада мною асабліва вялікую ласку. Як я мог і умеў, дзякаваў Богу за ўсе Ягоныя дабрадзействы для мяне, а цяпер на схіле майго жыцьця ў знак асаблівае ўдзячнасьці і дзеля большага ўслаўленьня майго Нябеснага Айца яшчэ хачу падаць да агульнага ведама хоць некаторыя выпадкі з майго жыцьця, калі Божая апека нада мною выявілася амаль цудоўным спосабам.

У 1914 г. я быў камандзірам роты і знаходзіўся з маім адзьдзелам недалёка ад Лодзі. Аднаго дня камандзір батальёну загадаў мне йсьці з маею ротаю на фронт, які праходзіў тады на захад ад Людзі. Пакуль я дайшоў да вызначанае мне постані на паўночны-захад ад Лодзі і заняў пазіцыю, дык у маёй роце ўжо было ранена шасьцёх жаўнераў. Разьмясьціўшы ўсіх у акопах, я зайшоў у зямлянку ротнага камандзіра і ўзяў туды чатырох

санітараў. Гутару я з санітарамі, а мне здаецца быццам сплю і бачу сон, і вельмі дзіўны сон — зьяўляецца мне Ісус Хрыстос з цярновым вянком на галаве і стаіць Ён на зямлі якіх крокаў трыццаць ад дому, што знаходзіўся ўсяго 50 крокаў за нашаю пазіцыяю. Я хачу йсьці да Яго, але раптам пад каленам левае нагі мне моцна засьвярбела і я прачнуўся. Недавяраючы сам сабе, пытаюся ў санітараў; ці я спаў? Яны гуртам адказваюць: «Як вы маглі спаць, калі ўвесь час гутарыце з намі». Я ім кажу: «Усё-ж такі я спаў і бачыў сон». І расказаў ім свой сон. Адзін з санітараў заўважыў мне, што я напэўна буду ранены. Нікому больш нічога ня кажучы аб сьне, назаўтра рана я абышоў усе давераныя мне постані і заўважыў, што ў акопах мала жаўнераў і што яны сабраліся гурмам у доме за фронтам і там гатуюць сабе гарбату, вараць бульбу. Таму, што дом ужо быў бяз шыбаў і немцы лёгка маглі заўважыць людзей у доме, я пасьпяшыў туды і загадаў жаўнерам чым хутчэй выйсьці з дому ў акопы. Калі ўсе выйшлі, я так-жа накіраваўся ў акопы. Але толькі я дайшоў да таго мейсца, дзе ўва сьне бачыў абраз Хрыста, як перада мною ўсяго якіх дзесяць крокаў выбух артылерыйскі снарад. Мяне засыпала зямлёю, але толькі адзін аскепак, адбіўшыся ад сьцяны дому раніў у нагу, якраз у тое мейсца, дзе было засьвярбела ў часе сну, больш ніякіх ані ранаў, ані пашкоджаньняў мне ня сталася — гэта сапраўды нязвычайная Божая апека нада мною. А па доме немцы адчынілі такі агонь, што сам дом зруйнавалі дазваньня і каб я ня вывеў адтуль жаўнераў, дык-бы ўсе пагінулі.

На пачатку другое сусьветнае вайны я жыў у Польшчы як эмігрант. Калі немцы занялі Беларусь, я прыехаў у свой родны горад. Ён быў моцна зруйнаваны, але мой родны дом астаўся цэлы, толькі ў доме я не знашоў нікога з родных. Таму што едучы дамоў я ня спаў аж тры ночы, дык з вечара пазакрываў у доме вокны, замкнуў дзьверы і хацеў чым хутчэй легчы спаць. Але перш чым лажыцца я памаліўся Богу і закончыў сваю малітву просьбаю: «Госпадзе, навучы мяне, як далей жыць у родным краю, каб нікога ня крыўдзіць і памерці сваею сьмерцю». Толькі я лёг і пачаў драмаць, як чую нейкі голас кажа мне: «Ты прасіў Бога, як жыць, дык выйдзі з гэтага дому на захад». Я спужаўся, хутка ўстаў і пачаў шукаць па ўсім доме, хто-б гэта мог гаварыць. Нікога нідзе не знайшоўшы, я падумаў, што гэта Божая асьцярога для мяне, дык яе трэба паслухацца. Назаўтра раніцаю я ўстаў і пайшоў у заходнюю частку гораду, там знайшоў старога знаёмага і затрымаўся ў яго на нейкі час. А на трэці дзень савецкія партызаны ноччу ўзарвалі мой родны дом. Каб Бог мяне не асьцярог, дык-бы я загінуў у руінах.

Пасьля гэтае вайны да 1949 г. я разам з усімі ўцекачамі мусіў сланяцца па розных лягэрах у Нямеччыне. Калі аграмадная хваля эміграцыі за мора апустошыла лягэры, дык старэйшых уцекачоў пачалі развозіць па прытулках для старцаў. Мяне з маім прыяцелем накіравалі ў Францыю. Маючы ўжо ўсе дакументы ў кішэні, мы перад падарожжам выспаведаліся, прычасьціліся і на разьвітаньне з нямецкім горадам пайшлі яшчэ апошні раз на прагулку ў горы. Увайшоўшы ў высокі горскі лес, мы зайшлі ў прыдарожную алтанку ў пачалі сьпяваць малітвы. Калі мы пяялі словы прарока Ісаіі: «Божа, мой Божа, к Табе ўзываю», якаясь птушка зьляцела з высокага дрэва, села каля нашых ног і пачала голасна шчабятаць. Мы пяялі далей, яна ласкава паглядала на нас і шчабятала што раз галасьней. Потым яна затрыліла так голасна і так прыгожа, што мой прыяцель ня вытрымаў і пачаў апладзіраваць — птушка адляцела. Але нам было так лёгка і радасна на душы, што здаецца лепшае пацехі нам Бог і ня мог паслаць. І цяпер у прытулку між чужынцамі, калі ўспомню тую маленькую птушку, дык становіцца прыемна і радасна на сэрцы.

Як я дзякую міласэрнаму Богу, што Ён выявіў мне нават цудоўным спосабам, сваю заўсёдную апеку нада мною!

**А. Голдашоў.**

# Да пытаньня рэлігіі

(Рэдакцыя «Божым Шляхам» атрымала ніжэй зьмешчаны ліст, які падаецца да агульнага ведана ў парадку дыскусіі).

Вельмі Паважаны Айцец Рэдактар,

10-га траўня г. г. я выслаў у рэдакцыю «Бацькаўшчыны» ліст з адказам на «дыскусыйны» артыкул В. Мікалаені «Некалькі слоў адказу» і артыкул І. Каранеўскага «За рэлігійную згоду». Аднак рэдакцыя «Бацькаўшчыны» майго ліста не зьмясьціла. Пакольк і ўважаю, што вышэй успомненыя артыкулы ня могуць астацца без адказу з боку каталікоў, перасылаю копію майго ліста Вам і ветліва прашу зьмясьціць яго на балонках чарговага нумару «Божым Шляхам».

З глыбокаю пашанаю **А. Надсон.**

У рэдакцыю «Бацькаўшчыны».

Вельмі паважаны Спадар Рэдактар,

Апошнім часам у «Бацькаўшчыне» былі зьмешчаныя два артыкулы на рэлігійныя тэмы: у Нр. 94-95 быў надрукаваны дыскусыйны артыкул В. Мікалаені «Некалькі слоў адказу», а ў Нр. 97

«За згоду рэлігійную» І. Каранеўскага. Не хачу тут увайходзіць у разважаньні адносна патрэбнасьці, ці непатрэбнасьці гэтых артыкулаў. Факт ёсьць, што яны былі надрукаваныя і дзеля гэтага, паколькі артыкулы парушаюць вельмі важныя пытаньні, дазвольце мне, як практыкуючаму сьвецкаму каталіку, выказаць на балонках Вашага паважанага часапісу мой пагляд у гэтых справах.

Перадусім, чытаючы абодва артыкулы, я вынес прыкрае ўражэньне, што аўтары трактуюць рэлігію з выключна нацыянальнага беларускага пункту гледжаньня і разглядаюць рэлігію як адзін з праяваў нацыянальнага жыцьця і то адзін не з найважнейшых. Няхай мне будзе дазволена заўважыць, што роля рэлігіі ня зводзіцца да адслужваньня багаслужбы на ўгодкі Слуцкага паўстаньня і 25-га сакавіка, малебна на зьезьдзе якое небудзь беларускае арганізацыі і да маніфэстацыі еднасьці беларускае эміграцыі. Заданьнем рэлігіі ёсьць узьнесьці чалавека да Бога. Сьв. Аўгустын пісаў: «Стварыў Ты, Божа, мяне для Сябе і неспакойнае сэрца маё, пакуль не спачне ў Табе». У гэтых прыгожых словах выражаецца найглыбейшы сэнс жыцьця чалавека — імкненьне да зьяднаньня з Богам. Гэтае імкненьне павінна стацца сэнсам усяго нашага жыцьця, нашых думак, нашых учынкаў, хаценьняў, усяе нашае істоты. Вось такі пагляд на сэнс жыцьця чалавека і пастунаньне згоднае з гэтым паглядам, мы называем рэлігійным. Група людзей вызнаючых тую самую рэлігію і злучаных супольна дзеля асягненьня аканчальнае мэты, твораць Царкву. Такім чынам рэлігійныя справы, як справы нашых адносінаў да Бога ёсьць важнейшыя ад усіх іншых, а значыць і нацыянальных.

Мне могуць паставіць закід, што такі пагляд ёсьць нерэальны і што пры такім паглядзе няма мейсца на нацыянальныя ды іншыя справы. Я тут хачу адразу адказаць, што для рэлігійнага чалавека няма важнейшае справы і больш рэальнае, чым справа ягоных адносінаў да Бога, бо, не закранаючы іншых прычынаў, ад гэтага залежыць уся ягоная будучыня. Пад будучыняй я разумею ня толькі нашае жыцьцё тут на зямлі, але цэлую вечнасьць пасьля. І калі, зусім слушна, стараемся як найвыгадней уладзіць нашае цяперашняе жыцьцё ,на колькі больш мы павінны дбаць аб вечным шчасьці. Адносна нацыянальнага пытаньня, дык зарызыкую на цьверджаньне, што толькі рэлігійны чалавек ёсьць здольны да сапраўднага патрыятызму, бо толькі ён бачыць свой абавязак перад сваім народам і бацькаўшчынай у адпаведнай пэрспэктыве. «Аддайце цэзару цэзарава, а Богу Божае», казаў Хрыстос.

Паколькі справа адносін чалавека да Бога ёсьць так важная і ад яе так шмат залежыць, кожны чалавек павінен быць перакананым, што ён ідзе па правільным шляху, інакш кажучы, што яго рэлігія ёсьць праўдзівая. Тут ня можа быць ніякіх сумніваў. Неабходная абсалютная ўпэўненасьць. Сказ, што ўсе рэлігіі аднолькава добрыя і праўдзівыя ёсьць вельмі небясьпечны, бо адтуль недалёка да сказу, што ўсе рэлігіі аднолькава нядобрыя і няпраўдзівыя, а там ужо толькі адзін крок да запярэчаньня Бога. Сказ гэты ёсьць таксама фальшывы ў сваім заложаньні, бо паколькі існуе толькі адзін Бог і адна праўда, дык і праўдзівая рэлігія можа быць толькі адна.

Сьв. Каталіцкая Царква навучае, што існуе толькі адна праўдзівая рэлігія і што ёю ёсьць каталіцкая рэлігія. Ня ёсьць мэтаю гэтага ліста падаваць асновы гэтага вучэньня. Хачу толькі сказаць, што ўсе каталікі вераць у яго без засьцярогаў. Я разумею, што гэты факт можа выклікаць рэплікі з боку некаталікоў, думаю аднак, што лепш сказаць праўду ясна, як-бы гэтая праўда была няпрыемнай для некаторых.

Тут мне могуць паставіць закід: Добра, вы верыце, што вашая рэлігія ёсьць адзінай праўдзівай, але таксама думаюць праваслаўныя аб сваёй, пратэстанты аб сваёй і і. д. Якім чынам усе яны могуць жыць разам у згодзе і супольна працаваць дзеля аднае мэты? Адказам на гэта ёсьць рэлігійная толеранцыя. Рэлігійная толеранцыя заключаецца ў тым, што мы забавязаны шанаваць пагляды кожнага чалавека, калі гэты чалавек у **добрай веры** перакананы ў праўдзівасьці сваіх паглядаў нават тады, калі мы перакананы ў тым, што ён памыляецца, што мы забавязаны яму сказаць. Сказаць свайму сябру: «Калі ты перакананы ў праўдзівасьці твае веры, дык вер і пастунай паводля яе прыказаньняў і твая вера цябе збавіць, я аднак перакананы, што ты памыляешся і буду маліць Бога, каб Ён паслаў табе ласку праўдзівае веры», ня ёсьць тое самае, што сказаць: «Нашыя веры аднолькава добрыя і роўнавартасныя і дзеля гэтага ня варта заварочваць сабе галавы рэлігійнымі розьніцамі». У першым выпадку мы маем толеранцыю, якая мае свае асновы ў веры ў Божае міласэрдзе, якое не дазволіць згінуць нікому, хто шчыра верыць у Бога, а так-жа ў любові бліжняга і пашане да людзкое адзінкі, як асобы абдаронае несьмяротнаю душой. У другім выпадку мы маем рэлігійную абыякавасьць, якая зьяўляецца першым крокам да бязбожжа.

На заканчэньне хацеў-бы парушыць яшчэ адну справу. Паводля мяне няма чаго вельмі захапляцца той «рэлігійнай еднасьцю», што каталікі маліліся з праваслаўнымі ў цэрквах, а праваслаўныя ў касьцёлах і «сымбалізмам» факту, што праваслаўны сьвятар прасіў багаславенства ў каталіцкага кардынала. Гэтыя вонквыя маніфэстацыі ў найвышэйшым выпадку былі звычайнымі актамі ветлівасьці. Мы слушна дамагаемся, каб цэрквы заспакойвалі рэлігійныя патрэба нашага народу, а ня служылі варожым нам палітычным мэтам.

Баюся аднак, што вельмі хутка рэлігійныя беларусы павінны будуць пратэставаць супраць ператварэньня сьвятыняў у мейсцы палітычных дэманстрацыяў.

Справа рэлігійнае еднасьці зьяўляецца вельмі важнаю і балючаю і ўсе, як каталікі, так і праваслаўныя, яе жадаюць ад цэлага сэрца. Не забываймася аднак на існуючыя розьніцы і не памяньшайма іх лёгкімі фразамі аб раўнавартаснасьці рэлігіяў; гэтыя розьніцы складаліся на працягу тысячы гадоў. У працы над аб'яднаньням Цэркваў нам патрэбная перадусім помач Духа Сьвятога і дзеля гэтага прыступайма да яе ў пакоры духа з малітвай і добраю воляй. У сяньняшні аднак мамэнт было-б далёка лепш, каб стараліся жыць і пастулаць кожны паводля свае веры. Я ўпэўнены, што шчыры каталік і шчыры праваслаўны, кожны пераканаы ў праўдзівасьці свае веры, хутчэй знойдуць супольную мову, чым з тым, хто гаворыць, што ўсе рэлігіі аднолькава добрыя.

Будзьма асьцярожныя ў асуджваньні нашых сьвятароў. Не забываймася, што яны перадусім працуюць для справы Божае. Мы сяньня прывыклі бачыць у сьвятрох грамадзкіх дзеячоў і вельмі выгадна забываемся, што яны такі зьяўляюцца сьвятарамі і дзівуемся і абураемся, калі яны нам часам прыпамінаюць аб нашых рэлігійных абавязках. Будзьма асьцярожнымі ў абвінавачваньні некага ў рэлігійным фанатызьме, бо людзі, якія з такою лёгкасьцю абвінавачваюць у рэлігійным фанатызьме іншых, вельмі часта зьяўляюцца фанатыкамі ў іншых справах, беспараўнаньня ніжэйшых ад рэлігіі.

Я забраў голас у дыскусыі толькі таму, што ў гэтай справе былі ўжо напісаныя два артыкулы і ў адным з іх аўтар ,сп. Мікалаеня, стараецца гаварыць ад імя беларускае інтэлігэнцыі. Я тут гавару толькі ад майго імя і хачу заявіць, што хаця залічаю сябе таксама да беларускае інтэлігэнцыі, аднак з поглядамі сп. Мікалаені не пагаджаюся. Мая просьба да ўсіх тых, якія захочуць узяць голас ці то ў гэтай, ці ў якой іншай дыскусыі ў будучыні, каб не рабілі такіх абагульненьняў і лепш гаварылі ад свайго собскага імя, або ад імя тых, хто іх да гэтага ўпаважніў. І яшчэ адна канчатковая заўвага: утрымаць дыскусыю на ўзроўні годным беларускае інтэлігэнцыі.

З глыбокаю пашанаю

**А. Надсон.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

### 35-Ы ЭЎХАРЫСТЫЧНЫ КАНГРЭС.

Сёлета ад 27 траўня да 2 чэрвеня адбыўся ў Барцэлёне (Гішпанія) 35-ы Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс, на якім удзельнічала 16 кардыналаў, 360 япіскапаў, некалькі тысяч сьвятароў і каля мільёна вернікаў розных нацыянальнасьцяў. Папскім легатам на Кангрэсе быў Яго Эмін. кардынал Тэдэскіні. Праводная тэма Конгрэсу была: Эўхарыстыя і мір. Усе ўрачыстасьці, якія суправаджалі Кангрэс, мелі сапраўды велічны характар і адначасна наглядна выяўлялі, якім вялікім дзейнікам міру і аб'яднаньня народаў ёсьць Хрыстос у Найсьвяцейшаў Эўхарыстыі.

### СЬВЯЦЕЙШЫ АЙЦЕЦ АБ МАДЭРНАЙ МАРАЛІ.

Прымаючы на асобнай аўдыенцыі дня 19 красавіка сяброў Кангрэсу Сусьветнае Фэдэрацыі Жаночае Каталіцкае Моладзі, Сьвяцейшы Айцец Пій XII зьвярнуўся да іх з прамоваю, у якой выказаў памылкі мадэрнае маралі, што выплываюць з фальшывых тэорыяў экзыстэнцыялізму, індывідуалізму і актуалізму. Каталікі ня маюць патрэбы шукаць іншых тэорыяў аб маральнасьці, бо маюць сваю, якая найбольш адказвае ўсім людзям, яна ёсьць сапраўды унівэрсальная, бо абаснаваная на прыродзе чалавека і яго адносінах да Бога.

### ТЫДЗЕНЬ ФРАНЦУСКІХ КАТАЛІЦКІХ ІНТЭЛЕКТУАЛІСТАЎ.

Ужо ў Парыжу сталася традыцыяй, што кожны год у траўні месяцы Францускія Каталіцкія Інтэлектуалісты ладзяць Тыдзень Студыяў, прысьвечаны найбольш актуальным тэмам. Сёлета гэткі Тыдзень адбыўся між 5-10 траўня, займаючыся разважаньнем аб свабодзе і послуху. Вялікая колькасьць слухачоў і жывое рэха на старонках прэсы аб працах Тыдня вымоўна сьведчылі аб яго актуальнасьці і плоднасьці.

### ПАЛАЖЭНЬНЕ НА КІПРЫ.

Абток Кіпр, заселены на 90% грэкамі, знаходзіцца пад пратэкцыяй Англіі, а Праваслаўная Царква на Кіпры мае сваю аўтакефалію ад 1900 г. Ужо ад некалькі гадоў праваслаўнае грэцкае насельніцтва і асабліва яе ерархія вядуць узмоцненую кампанію за прылучэньнем Кіпру да Грэцыі. Сучасны кіпрскі архіяп. Макарый ад некалькіх месяцаў падарожнічае па краінах блізкага Усходу і ўсюды стараецца прыдбаць сабе грамадзкую апінію і знайсьці прыхільнікаў у кругох урадовых дзеячоў для прыеднаньня Кіпру да Грэцыі.

### АГІТАЦЫЯ МІЖ ДУХАВЕНСТВАМ У МАДЗЯРШЧЫНЕ.

Камуністычная мадзярская прэса ў мінулым месяцы вострa накінулася на каталіцкае духавенства за тое, што на арганізаваны камуністамі ў Фэгары мітынг «за мір» з 160 запрошаных сьвятароў зьявілася толькі 40.

### НА ПАВАДКУ САВЕЦКАЕ ПАЛІТЫКІ.

Пачынаючы ад 1942 г. бальшавізм стараецца пры кожнай нагодзе выкарыстаць для сваіх палітычных мэтаў кіраўнікоў усіх веравызнаньняў, якія асталіся ў СССР. Сёлета ў гэтым кірунку зроблены яшчэ адзін новы крок упярод. Ад 9 да 12 траўня пад старшынствам маскоўскага патрыярха Аляксея адбылася ў сьвята-Сергіеўскім манастыры ў Загорску каля Масквы канфэрэнцыя старшынь 27 веравызнаньняў з СССР і некаторых прадстаўнікоў ад пратэстантаў з Аўстрыі і Галяндыі. Гэта першая такая канфэрэнцыя дзе побач патрыярха- япіскапаў ,супэрінтэндантаў, пастараў засядалі так-жа: галоўны рабін з Масквы, магомэтанскі галоўны муфті з Транскаўказу, будысты з Сібіры і інш. Канфэрэнцыя была прысьвечана пытаньню міру. Над прэзыдэнцыяльным сталом ня было ні абраза Хрыста, ні якога сьвятога, а толькі аграмадны партрэт Сталіна. Дэлегаты ў сваіх прамовах аднагодна паўтаралі, што не мяшаюцца ў палітыку і пасьля «беспалітычна» цьвердзілі, што толькі Сталін і Савецкі Саюз могуць захаваць мір, высылалі розныя заклікі да «патрызнаньня міру», асуджалі атомнае аружжа, дамагаліся канфэрэнцыі пяцёх і пад. Відаць, што сёньня ўжо няма нічога такога сьвятога, чаго-б не надужываўся для палітычнае прапаганды.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### Узмацненьне супрацькаталіцкае прапаганды.

З нешматлікіх вестак, якія даходзяць з бацькаўшчыны, аднагодна відаць, што бальшавіцкі наступ супраць Каталіцкае Царквы з кожным днём прымае штораз вастрэйшыя формы. Менская «Звязда» Нр. 78 з дня 1-V г. г. зьмясьціла вялікі артыкул Шэйнэмана: «Ватыкан на службе амэрыканскага імпэрыялізма», які мае быць нібыта адказам на запытаньне баранавіцкага рабочага Гаўрыкава. Названы аўтар сапраўды аж пеніцца ў сваёй лаянцы супраць Каталіцкае Царквы, а уніяцкае беларускае і украінскае духавенства дык проста мяшае з балотам. Але ці можна спадзявацца чагосьці іншага ад бязбожнікаў?! Было-б дрэнна, каб было іначай. Супраць іншых веравызнаньняў аўтар адзываецца больш лагодна, бо некаторыя з іх ужо зусім апанаваны бальшавіцкімі агэнтамі і толькі затрымоўваюць старыя назовы. Аднак і ад іх савецкая ўлада толькі за самое права існаваньня вымагае ўсякіх паслугаў для свае прапаганды. Напрыклад на «Трэцяй Усесаюзнай Канфэрэнцыі Міру», якая адбылася ў Маскве 27-29 лістапада 1951 г. для дэлегатаў ад савецкага духавенства быў прызначаны цэлы першы рад, але з тым, што «праваслаўныя духоўныя» займалі цэлы правы рад праваруч трыбуны, а прадстаўнікі ўсіх іншых веравызнаньняў левы рад.

### Стан савецкае «Праваслаўнае Царквы у БССР.

Аб тым, што на абшары ўсходняе часткі БССР асталося мала духавенства, ужо ўспаміналася ў першым нумары нашага часапісу. Ад тады палажэньне яшчэ пагоршылася. Вось «Журн. Маск. Патр.» Нр. 2 з г. г. паведамляе, што Маладэчна нележыць да Менскае епархіі, значыць, што Менская епархія, адзіная на ўсю ўсходнюю БССР зусім апустошаная, дык мусіла заняць вялікую частку заходняе БССР, а рэшту абшару пакінена Горадзенскай і Пінскай епархіям.

## АНГЛІЯ.

### Агульны Зьезд З.Б.В.Б.

Сёлета 26-27 красавіка ў Беларускім Доме ў Лёндане адбыўся 6-ы Агульны Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, на якім прысутнічала 52 поўнапраўныя дэлегаты і шматлікія госьці.

Сваю працу Зьезд распачаў супольным адсьпяваньнем малітвы Ойча Наш, а наступнага дня ў намераньні Зьезду былі адпраўлены Службы Божыя а. Ч. Сіповічам і а. Ал. Крытам.

Пасьля ўступнага слова старшыні ЗБВБ Ал. Надсона выбрана прэзыдыю Зьезду і выслухана справаздачы: галоўнае ўправы, наглядные рады і адзьдзелаў арганізацыі. За мінулы год зроблена вялікая праца так у нутраным жыцьці арганізацыі, як і на міжнародным полі, не зважаючы на вялікія цяжкасьці. Касавы абарот за мінулы год у вышыні 1470 фунт. кажа сам за сябе аб дзейнасьці арганізацыі.

Пасьля справаздачаў адбылася кароткая, але рачовая дыскусія, у выніку якое аднагодна воплескамі дана абсалютарыю ўступаючай галоўнай управе, апрацавана плян працы і бюджэт на бягучы год. Наступна выбрана новыя кіраўнічыя і кантрольныя ўлады. У склад галоўнае ўправы ўвайшлі: старшыня — Ал. Надсон, заступнік старшыні — П. Асіповіч, сакратар — П. Навара, скарбнік — Ф. Бартуль, сябры ўправы — Л. Клыбік і К. Смайкевіч. На заканчэньне Зьезд выслаў прывітальныя тэлеграмы каралеве Элізабэце II і прэм'ер-міністру Чэрчылю, на якія атрымана адказы.

## АРГЭНТЫНА.

### Агульны Зьезд З. Б. А.

Згуртаваньне Беларусаў у Аргэнтыне сёлета дня 1-га чэрвеня ўжо мела свой шосты з чаргі Агульны Зьезд. На пачатку а. Васіль Вячорко адслужыў малебень у намераньні Зьезду, пасьля чаго старшыня ЗБА Ул. Другавец адчыніў Зьезд прывітальнаю прамоваю. Выбраўшы прэзыдыюм

Зьезду, дэлегаты выслухалі справаздачы старшыні, скарбніка і Нагляднае Рады. Акрамя нутранаарганізацыйнае дзейнасьці Ўправа зьвярталася ў беларускіх справах да прэзыдэнта Пэрона і да ўправы «Голасу Амэрыкі».

Абгаварыўшы справу пляну прыцы і бюджэту Зьезд разважаў магчымасьць заснаваньня прыходу БАПЦ, але а. В. Вячорко на гэта на даў свае згоды, абяцаючы толькі абслугоўваць беларусаў, астаючыся і далей пад расейскаю юрысдыкцыяй, дзеля гэтага даручаецца галоўнай управе знайсьці адпаведнае палагоджаньне гэтае справы. Парушана была так-жа пытаньне арганізацыі душпастырства для беларусаў каталікоў. Выбрана новую галоўную ўправу ў такім складзе: старшыня — Ул. Другавец, заступнік старш. — Ал. Літвінскі, першы сакратар — Л. Петраш, другі сакратар — М. Ланкевіч, скарбнік — В. Казлоўскі. Уканцы выслана тэлеграму прэзыдэнту Аргэнтыны І. Д. Пэрону.

## АЎСТРАЛІЯ.

### Новая арганізацыя.

Сёлета паўстала ў Аўстраліі Згуртаваньне Беларускіх Жанчынаў. Галоўная мэта новае арганізацыі ёсьць займацца харытатыўнаю дзейнасьцю. Галоўная ўправа месьціцца ў Брысбане.

## З. Ш. А.

### У міжнародным жыцьці.

Беларусы з Нью Ёрку і ваколіц дня 28-IV прымалі актыўны ўдзел у паходзе з нагоды Дня Ляяльнасьці.

**Прадстаўнікі 15** паняволеных бальшавікамі народаў, аб'яднаныя ў арганізацыі - Амэрыканскіх прыяцеляў Антыбальшавіцкага Блёку Народаў, сёлета 4 траўня ладзілі вялікую маніфэстацыю ў Нью Ёрку з удзелам выдатных амэрыканскіх дзеячоў. Беларускую групу ўзначальваў інж. М. Рагуля.

### На арганізацыйнай ніве.

Апошнім часам у Кліўляндзе паўсталі дзьве новыя арганізацыі: 16-III Згуртаваньне Беларускіх Жанчынаў у Кліўляндзе і дня 30-III Адьдзел Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў у З. Ш. А.

Кліўляндзкі Адьдзел **Згуртаваньня Беларускае Моладзі** дня 6-IV адбыў свой гадавы Сход, на якім пасьля справаздачы ўправы аб сваёй дзейнасьці за мінулы год, выбрана новую ўправу на чале з М. Белямуком.

На Вялікдзень 20-IV Беларускі Злучаны Камітэт у Кліўляндзе ўрачыста адчыніў **Беларускі Народы Дом,** які займае цэлы трэці паверх вялікага будынку і мае салю на 350 мейсц.

**Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква** Сьвятога і Цудатворнага Абразу Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе зарэгістравана ў штатным урадзе ў Огаёе і дня 7-IV атрымала свой чартар.

Стараньнем Кліўлендзкага Адьдзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня дня 11-га траўня адбыўся **Беларускі Канцэрт** у Кліўляндзе з удзелам салісткі Б. Вержбаловіч і Н. Градэ пры акампаньямэнце кампазітара М. Куліковіча.

## КАНАДА.

### Міжнародны фэстываль.

На міжнародным фэстывалю нацыянальнае музыкі і танцаў, які сёлета 21 і 22 красавіка ладзіў адзьдзел ІМКІ ў Вінніпэгу, удзельнічала 18 нацыянальнасьцяў. Выступ беларускае групы ацэнена як найлепшы.

## ФРАНЦЫЯ.

### Канцэрт.

Ансамбль беларускіх студэнтаў Лювэнскага унівэрсытэту ўжо даволі добра ведамы беларускай эміграцыі, дык нічога дзіўнага, што беларуская калёнія ў Парыжу радасна сустрэла вестку, што гэты Ансамбль дасьць канцэрт беларускае песьні і танцу ў Парыжу дня 26-IV. У азначаны дзень у салі Дыяцэзальнага Дому каталіцкіх студэнтаў побач беларусаў знашлося так-жа нямала іншанацыянальных слухачоў. Ужо самая пастава студэнтаў, іхныя сапраўды прыгожыя нацыянальныя строі зрабілі прыемнае ўражэньне, а багатая праграма беларускіх рэлігійных, народных і патрыятычных песень і асабліва народныя танцы выклікалі няраз буру воплескаў. Надоўга астанецца ў памяці прысутных прыемны ўспамін ад першага беларускага канцэрту ў Парыжу.

### Агульны Сход.

У салі Хрысьціянскага Сындыкату Работнікаў у Парыжу 18 траўня сябры А. Б. Р. Ф. і Б. Н. А. Моладзі мелі агульную сходку, на якой прэз. М. Абрамчык расказаў аб сваім падарожжы ў Амэрыку. Наступна старшыня А. Б. Р. Ф. Ал. Яцэвіч падаў інфармацыйныя весткі з сындыкальнага жыцьця і ўканцы сябры БНАМ разыгралі маленькую лётэрэю, даход з якое прызначаны на выдавецтва.

### 10-ыя ўгодкі сьмерці Я. Купалы.

Сёлета зышліся разам 70-ыя ўгодкі нараджаньня і 10-я ўгодкі трагічнае сьмерці вялікага беларускага паэта Янкі Купалы. Беларуская калёнія ў Парыжу азначыла гэтыя ўгодкі разам з 50-ымі ўгодкамі нараджэньня Язэпа Пушчы. З гэтае нагоды дня 6-га чэрвеня ў беларускай капліцы была адпраўлена ўрачыстая Служба Божая, а пасьля яе жалобная паніхіда. Папалудні таго-ж дня ў салі Хрысьціянскага Сундыкату Работнікаў адбылася зборка, на якой Ал. Яцэвіч прачытаў рэфэрат аб творчасьці Я. Купалы і падзяліўся сваімі ўспамінамі аб жыцьці Язэпа Пушчы.

---

## ПОШУКІ.

Хто ведае аб долі **Бізюка** Івана, просіць паведаміць яго сябра Барыс.

**Забаўскага** Івана, які быў у другім корпусе ў Італіі, шукае брат Васіль.

Весткі просіцца кіраваць на адрас рэдакцыі.

---

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.

Directeur : Abbé L. Horosco.

# Тыдзень стыдыяў Беларускага Каталіцкага Аб'еднаньня «Рунь»

Галоўная Управа БАКА «Рунь» паведамляе, што Тыдзень Студыяў і агульны Зьезд сяброў «Руні» сёлета адбудзецца ў Лёндане Marian House, Holden Avenue, *London*, N. 12. у часе ад 20 да 26 ліпеня.

Тэма тыдня студыяў: ХРЫСТОС — ДАРОГА, ПРАЎДА І ЖЫЦЬЦЁ.

Акрамя дакладаў у праграме Тыдня прадбачваецца адзін дзень рэкалекцыяў. Праектуецца зарганізаваць зьведваньне Лёндану.

У часе Тыдня адбудзецца таксама агульны зьезд «Руні».

Удзельнікі (мужчыны) будуць жыць у доме айцоў Марыянаў. Сяброўкі, калі-б жадалі прыехаць будуць разьмешчаны ў суседзтве, так што змогуць браць поўны ўдзел у працах Тыдня. Кошты ўдзелу для сяброў «Руні» будуць выносіць тры фунты, для несяброў тры фунты і 10 шылінгаў. З прычыны абмежаванае колькасьці мейсцаў Галоўная ўправа просіць усіх жадаючых узяць удзел у Тыдні, паведаміць аб тэтым Галоўную Управу ў якнайхутчэйшым часе.

Усю карэспандэнцыяю ў справе Тыдня Студыяў кіраваць на адрас Галоўнае Управы: Byelorussian Catholic University Union «Run», Marian House, Holden Avenue, *London*, N. 12.

Галоўная Управа БАКА «Рунь».

# Абразкі з жыцьця

### ЗНАЙШОЎ ДОКАЗ.

Адзін англійскі дасьледнік Палестыны з мінулага стагодзьдзя, будучы дэістам, ня верыў у боскасьць Хрыста і насьміхаўся з каталіцкіх сьвятароў у Палестыне, якія яму паказвалі сьвятыя мейсцы і рэліквіі. Але калі ён разам з сваім сябрам аглядаў уважна трэшчыны ў скале на гары Кальварыі, аб якіх гаворыцца ў сьв. Эвангельлі, што сталіся падчас сьмерці Хрыста, дык раптам спаважнеў і зьвярнуўся да сябры: «Я пачынаю быць хрысьціянінам, бо гэткія шчыліны ў скале, якія бачыш тут, не маглі стацца падчас звычайнага землятрусу, бо звычайна ў гэткіх выпадках скалы трэскаюцца ў найслабейшых мейсцах па пластох, а тут наадварот. Тут скала лопнула ўпоперак, трэшчына йдзе ў зусім нязвычайны спосаб. Толькі цуд мог спрычыніць нешта падобнае. Дзякую Богу, што Ён мяне прывёў сюды, каб паказаць сваю ўсемагутнасьць і боскасьць Хрыста ў так ясна пераконваючым сьвятле».

**В. Вільмэрс.**

### ЛЮБОЎ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ.

Падчас хатняе вайны ў Гішпаніі нацыянальныя войскі свае перамогі звычайна азначалі рознымі рэлігійнымі ўрачыстасьцямі. Так было і ў Сэвілі. Выгнаўшы адтуль камуністаў, усё насельніцтва разам з войскам урачыста ўносіла ў школы крыжы і вешала іх на пачэсных мейсцах. Ачоліваў гэтую ўрачыстасьць кардынал Ілюндайн і Эстэбан у прысутнасьці гэнэрала Квэйпо дэ Ліяно. Пасьля прамовы кардынала прамаўляў так-жа гэнэрал. Ён у сваім палкім слове між іншым заявіў: «Гэты ўчынак ёсьць для мяне найважнейшым. Я так веру і так гавару. Я веру, што рэлігія ёсьць найважнейшаю справаю кожнага сапраўднага патрыёта, бо хто ня любіць Бога, ня можа па сапраўднаму любіць свае сям'і і ня можа як сьлед служыць сваёй бацькаўшчыне».

### КРЫНІЦА НАТХНЕНЬНЯ.

Выдатны нямецкі кампазітар сусьветнае славы Язэп Гайдн (1732-1809) казаў аб сваёй творчай працы: «Калі мне здаралася, што нейкая кампазіцыя ніяк ня йшла ўпярод, дык я браў у рукі свае чоткі і пачынаў маліцца. Адмовіўшы некалькі «Прывітана будзь...» адзывалася ў маёй душы такое багацьце мэлёдыяў, што рука не ўсьпявала запісваць тыя мэлёдыі і песьні, якія мне сьпявалі: вера і натхненьне».

### ЗНАЙШЛА МАЦІ.

Маленькая пастушка Мэлянія з Салет вельмі шмат цярпела ад свае роднае мамы. Здаралася нават так, што ноччу ў часе вялікіх навальніцаў Мэланія была па-за домам, таму, што яе маці была ў дрэнным настроі. Ад свае маці, яна ня чула ласкавага слова, ня мела ніякае ласкі. Аднойчы падчас малітвы яна выказала Хрысту ўсё сваё цярпеньне і ўканцы пачула словы Хрыста: «Я дам табе добрую Маці!» І сапраўды хутка пасьля гэтага зьявілася Мэляніі Маці Божая нявымоўнае красы і дабраты. Цяпер радасьць дзяўчыны пераходзіла ўсякія спадзяваньні. Яна ў захапленьні паўтарала толькі адно слова: Матуля! Яна знайшла сваю праўдзівую маці.

Паводля **Л. Рюгэра.**

### ВЫЗНАНЬНЕ ВУЧОНАГА.

Сучасны выдатны нямецкі вучоны прафэсар зоолёгіі др. Гаузэр у адным з сваіх твораў піша аб сабе: «У маёй маладосьці я быў, падобна як шмат такіх-жа недасьпелых юнакоў, недаверкам... Аднак у меру таго, як узраставў і заглыбляўся ў сапраўднае прыродазнаўства, і чым больш мне раскрывалася цудаў прыроды, тым больш я пазнаваў, як бесканечна далёка знайходзіцца прыродазнаўства ад сапраўднага высьненьня вялікіх загадак прыроды і што ў іх ёсьць такія дзялянкі, у якія бедны людзкі розум бадайшто ніколі ня зможа пранікнуць».